# ЗЬМЕСТ



## Да ведама ўсіх арганізацый.

Усе сродкі, сабраныя ў фонд каляктывізацыі, просьба здаваць альбо перасылаць у Дзяржбанк на бягучы рахунак № 985 Цэнтральнай Камісіі па правядзеньню „Дню Каляктывізацыі і ўраджаю“.

Рэдкалегія.


Друкарня БДВ. Зак. № 10. 10.000 экз. Галоўлітбел № 8.

# ШЛЯХІ КАЛЯКТЫВІЗАЦЫІ

ЧАСОПІС КАЛЯКТЫВІЗАЦЫІ, ВЫТВОРЧАГА С.-Г. КААПЭРАВАНЬНЯ І АГРАНАМІЗАЦЫІ НАСЕЛЬНІЦТВА

ВЫДАНЬНЕ НАРКАМЗЕМУ, БЕЛКАЛГАССАЮЗУ І БЕЛСЕЛЬСАЮЗУ БССР

Выходзіць раз у месяц

№ 4 | Кастрычнік | 1929 г.

## Дзень ураджаю і каляктывізацыі.

Рабочая кляса разам з бядняцка-серадняцкімі масамі сялянства пад кіраўніцтвам камуністычнай партыі, будуе сацыялістычную гаспадарку, вядзе рашучае наступленьне на капіталістычпыя элемэнты гораду і вёскі. Па ініцыятыве рабочых буйнейшых індустрыяльна-прамысловых цэнтраў Масквы, Ленінграду, Іванава-Вазьнясенску і інш. у Савецкім Саюзе быў праведзены „дзень індустрыялізацыі“ ў рэлігійнае сьвята, так званае „спаса“, прычым гэты дзень па ўсяму Савецкаму Саюзу паказаў на аграмадны энтузыазм, напружаньне сіл, энэргіі рабочае клясы за сацыялістычнае будаўніцтва. Вынікі дню індустрыялізацыі даюць нам права зараз зацьвярджаць, што рабочы пад кіраўніцтвам сваёй партыіператварыў рэлігійнае сьвята „спаса“ ў сьвята працы, у сьвята барацьбы за сацыялізм ў Савецкім Саюзе.

Па прыкладу дню індустрыялізацыі на абшарах асобных краін Савецкага Саюзу праводзіўся „Дзень каляктывізацыі“, прычым на абшарах БССР гэты дзень праводзіўся ў рэлігійнае сьвята, так званае „усьпеньне“. Вынікі, якія даў „Дзень каляктывізацыі“ Савецкай Беларусі, сьведчаць аб усё ўзрастаючым руху бядняцка-серадняцкіх мас вёскі ў калгасы, аб вялікай самадзейнасьці іх у справе сацыялістычнага будаўніцтва сельскае гаспадаркі, пад кіраўніцтвам камуністычнае партыі. У час правядзеньня „Дню каляктывізацыі“ ў Савецкай Беларусі арганізавана звыш 100 калгасаў, абагулена звыш 30.000 гектараў зямельнай тэрыторыі. У дзень каляктывізацыі мы папоўнілі шэрагі калгасьнікаў значнай колькасьцю бядняцка-серадняцкіх гаспадарак, якія да гэтага часу вялі гаспадарку індывідуальна і якія сталі ў шэрагі будаўнікоў сацыялістычнай сельскай гаспадаркі на падставе высокай тэхнікі і навукі. Пленум камуністычнай партыі Беларусі, калі разглядаў кантрольныя лічбы народнае гаспадаркі на 1929-30 год, намеціў давесьці плошчу пад аграмаджаным сэктарам, саўгасамі і калгасамі, к канцу 1930 года ня менш 13 проц. Зараз мы пад калгасамі і саўгасамі маем каля 5 проц., таму наступны „Дзень ўраджаю і каляктывізацыі“ павінен атрымаць увагу з боку партыйных, савецкіх, зямельных і каапэрацыйных установ і арганізацый на мясцох.

Зараз трэба сказаць таксама, што „Дзень ўраджаю і каляктывізацыі“ павінен мабілізаваць увагу ўсіх органаў за ажыцьцяўленьне апошніх рашэньняў Верасьнёўскага пленуму ЦК КП(б)Б аб саўгасным і калгасным будаўніцтве. Дзень гэты павінен прайсьці пад асноўным лёзунгам

партыі: „Вёска ў буйнае сацыялістычнае земляробства“, прычым ад таго, як энэргічна правядзем дзень ураджаю і каляктывізацыі, будзе залежаць выкананьне дырэктыў аб аграмаджаньні зямельнай тэрыторыі ня менш, чым на 13 проц.

У сувязі з шырока разгорнутым калгасным будаўніцтвам, сьвята „Дню ўраджаю“, якое праводзілася ў мінулым, зараз ня можа нас здаволіць пры вялізарным руху калгаснага будаўніцтва і павінна набыць зусім другі зьмест. Гэтае сьвята павінна стаць днём ня толькі ўраджаю, а і днём масавай каляктывізацыі.

„Дзень ураджаю і каляктывізацыі“ бягучага году ёсьць справа падагульваньня працы ў сельскай гаспадарцы па выкананьні першага году пяцігадовага пляну вялікіх работ, зацьверджаных XVI парткан-фэрэнцыяй, Усебеларускім і Ўсесаюзным зьездамі саветаў. Прычым, „Дзень ураджаю і каляктывізацыі“ ў гэтым годзе праходзіць пры значна лепшых выніках працы па сельскай гаспадарцы.

„Дзень ураджаю і каляктывізацыі“ павінен падагуліць вынікі працы па каляктывізацыі, саўгаснаму будаўніцтву, уздыму ўраджайнасьці, пашырэньню пасеўнай плошчы і павінен зьявіцца днём яшчэ большай мабілізацыі ініцыятывы і самадзейнасьці бядняцка-серадняцкіх мас вёскі для далейшай *сацыялістычнай рэканструкцыі сельскае гаспадаркі і наступленьня на кулака.*

Дзень ураджаю і каляктывізацыі бягучага году, арганізаваны на агравытворчай аснове, павінен зьявіцца для вёскі новым культурным сьвятам, якое, будучы запоўнена належным зьместам: лекцыі і даклады на тэму аб сельскай гаспадарцы, выстаўкі з максымальным удзелам калгасаў, саўгасаў і бядняцка-серадняцкіх гаспадарак, кіно-перасоўкі са зьместам за буйную гаспадарку, за мэханізацыю сельскае гаспадаркі, радыё і павінен выцясьніць цалкам існуючыя ў вёсцы асеньнія рэлігійныя сьвяты (пакроў і інш.) з іх фэстам, кірмашамі, якія штогодна адбіваюцца на сельскай гаспадарцы, таму што рэлігійнае сьвята нясе з сабой цемру для бядняцка-серадняцкіх гаспадарак і, па сутнасьці, паасобныя з іх займаюцца безгаспадарчасьцю і растратамі для самаго сябе.

У „Дзень ураджаю і каляктывізацыі“ зямельныя і каапэрацыйныя органы павінны замацаваць дасягнутыя вынікі калгаснага будаўніцтва, сацыялістычнага спаборніцтва за падвышэньне ўраджайнасьці, паказаць праз выстаўкі, праз экскурсіі бядняцка-серадняцкім сялянам і сялянкам прыклады і перавагі буйнага саўгаснага і калгаснага будаўніцтва, прычым пажадана, каб дробна-раённыя выстаўкі праводзіліся ці ў калгасе, ці ў саўгасе.

Дабіцца ў практычным ажыцьцяўленьні далейшай арганізацыі калгасаў узбуйненьня існуючых калгасах і саўгасаў. У гэты дзень дабіцца ня меншых вынікаў, а значна большых, патроеных, чым у першы дзень каляктывізацыі.

Пры правядзеньні „Дню ўраджайнасьці і каляктывізацыі“ трэба максымальна мабілізаваць рабочыя калектывы, саўгасы, калгасьнікаў, па палепшаньні жывёлагадоўлі, як аднэй з галоўнейшых галін сельскае гаспадаркі Беларусі, трэба дабіцца максымальнага тлумачэньня з боку аграработнікаў, работнікаў саўгасаў, кіраўніцтва калгасаў, бядняцка-серадняцкім сялянскім гаспадаркам аб умовах кармленьня, утрыманьня і догляду за жывёлай, прычым правядзеньне гэтага мерапрыемства практыкаваць праз практычны паказ быту саўгасаў і калгасаў.

„Дзень ураджайнасьці і каляктывізацыі“ павінен быць шырока масавай праверкай, як на справе выконваецца генэральная лінія партыі

па садзейнічаньню калгаснаму і саўгаснаму будаўніцтву, а таксама праверка ўсіх органаў, у якой ступені забясьпечана правядзеньне клясавай лініі на вёсцы.

Прафсаюзныя і шэфскія арганізацыі ў „Дзень ураджаю і каляктывізацыі" павінны на справе паказаць ажыцьцяўленьне рэшэньняў XVI партканфэрэнцыі шляхам прыняцьця непасрэднага ўдзелу ў правядзеньні гэтага дню, пастаноўкай дакладаў у рабочых клюбах, прадстаўнікоў ад падшэфных раёнаў, саўгасаў, калгасаў, зямельных органаў і пасылкай рабочых брыгад, прадстаўнікоў для практычнага ўдзелу ў правядзеньні гэтага сьвята на мясцох у вёсцы.

Так як „Дзень ураджаю і каляктывізацыі" гэтага году праходзіць пры значна лепшым ураджаі, трэба, каб мясцовыя органы мабілізавалі ўвагу сялянства за арганізаваную здачу хлеба на хлебазагатавіцельныя пункты, а таксама прасунуць у вёску дзяржаўную пазыку, праводзячы гэтую працу пад лёзунгам: „Ніводнага сялянскага бядняцка-серадняцкага двара, здаючага збожжа прыватніку, і ніводнага сялянскага двара па-за падпіскай на пазыку індустрыялізацыі савецкага саюзу".

Мабілізацыя сродкаў на сацыялістычнае будаўніцтва павінна заняць вызначанае месца пры правядзеньні „Дню ўраджаю і каляктывізацыі", трэба ўзмацніць уклады ў касы ашчаднасьці, трэба ўзмацніць засеў спэцыяльных гектараў каляктывізацыі, а так як асеньні пасеў будзе скончаны, падрыхтоўвацца да вясеньняга засеву. Трэба арганізаваць суботнікі ў калгасах і саўгасах, прычым грошы ад суботнікаў павінны пайсьці цалкам на сацыялістычнае будаўніцтва.

„Дзень ураджаю і каляктывізацыі" трэба ўвязаць з падрыхтоўкай да Ўсебеларускай Сельска-Гаспадарчай і Саматужна-Прамысловай Выстаўкі, трэба, каб у гэты дзень быў арганізаваны адбор-экспанатаў, якія будуць удзельнічаць ў Выстаўцы, прычым трэба выкарыстаць для гэтае мэты як раённыя, гэтак і дробна-раённыя выстаўкі, а таксама і конкурс на лепшы ў сельска-гаспадарчых аднэсінах раён, трэба памятаць, што лепшыя вынікі працы раёнаў, удзельнічаючых у конкурсе, будуць залежаць ад таго, у якой ступені яны мабілізуюць бядняцка-серадняцкія масы сялянства за соцыялістычную перабудову сельскае гаспадаркі, за ўздым вытворчасьці сельскае гаспадаркі, праз масавую каляктывізацыю і вытворчае каапэраваньне, праз рашучае наступленьне на капіталістычныя элемэнты ў вёсцы.

„Днём каляктывізацыі і ўраджаю" сёлета яшчэ раз падкрэсьліць адзіна-правільную лінію партыі па сацыялістычнай перабудове вёскі і гэтым самым даць рашучы адпор права-апартуністычным элемэнтам, ныцікам, малаверам на чале з Бухарыным, ня веруючым у сацыялістычнае будаўніцтва сельскае гаспадаркі, за выразную клясавую лінію, за 13 проц. плошчы пад калгасамі ў 1929-30 годзе, за мабілізацыю ініцыятывы і сродкаў на сацыялістычнае будаўніцтва ў сельскай гаспадарцы, за барацьбу з права-апартуністычнымі элемэнтамі на практыцы ў мясцовых зямельных і іншых органах, за буйную сацыялістычную гаспадарку.

К. Н. Масюкоў.

---

**Дзень ураджаю і каляктывізацыі—дзень шчыльнае змычкі рабочых з бядняцка-серадняцкім сялянствам.**

---

# Узмацнім барацьбу за ўраджай.

Сьвяткаваньне „Дню ўраджаю і каляктывізацыі“ будзе праходзіць пад лёзунгам пашырэньня каляктыўнага руху, узмацненьня працы па калгасам і вытворчаму каапэраваньню і падагульваньня вынікаў мерапрыемстваў па ўздыму ўраджайнасьці, з вызначэньнем бліжэйшых задач па рэканструкцыі сельскае гаспадаркі на сацыялістычнай базе.

Праводзячы падрыхтоўчую працу па сьвяткаваньню „Дню ўраджаю і каляктывізацыі“ трэба, з усёй рашучасьцю ставіць пытаньне аб праверцы аграмінімуму ў вёсцы. Тыя пастановы, якія выносіліся на сходах сялянства, пры абгаварэньні закону аб ужываньні прасьцейшых аграмерапрыемстваў, ня былі трафарэтнымі, вузкімі па зьместу, а яны насілі больш шырокія мэты, вызначаючы шляхі па ўздыму ўраджайнасьці і першым пунктам вырашалася пытаньне аб калгасах і вытворчых аб‘яднаньнях.

Зараз, у час падрыхтоўчай працы на правядзеньню „Дню ўраджаю і каляктывізацыі“, трэба сур‘ёзна паставіць пытаньне перад бядняцка-серадняцкімі пластамі вёскі аб тым, што зроблена для ажыцьцяўленьня пастаноў па аграмінімуму.

### Каляктывізацыя і вытворчае каапэраваньне.

Там, дзе ня выкананы пункты па арганізацыі калгасаў і вытворчых аб‘яднаньняў, павінны быць выкананы, і ў час сьвяткаваньня трэба дабіцца афармленьня калгасаў і вытворчых аб‘яднаньняў. У справе ажыцьцяўленьня пастаноў аб каляктывізацыі і вытворчым аб‘яднаньні бядняцка-серадняцкія гаспадаркі павінны дабіцца таго, каб вызначанае аб‘яднаньне было-б арганізавана. Адначасова з гэтым калгасы і вытворчыя аб‘яднаньні павінны практычна падрыхтаваць справу па большаму ўцягненьню ў свае шэрагі бядняцка-серадняцкіх гаспадарак, якія знаходзяцца на тэрыторыі дзейнасьці аб‘яднаньня. Калі калгасы паставяць сваёй мэтай уцягнуць 5—10 двароў у сваю гаспадарку, дык на Беларусі, пры ўдзеле саміх калгасаў, пашырыцца зямельная тэрыторыя на дзесяткі тысяч гектараў, і тысячы сялянскіх двароў будуць уцягнуты ў калгасы. Вытворчыя аб‘яднаньні няхай вызначаць для сябе па 5—10 кілёмэтраў суцэльнага каапэраваньня сялянскіх гаспадарак, гэта дасьць дзесяткі тысяч нова-каапэраваных сялянскіх двароў.

Аграмінімум павінен прымусіць нашы кіруючыя органы калгасаў і вытворчых аб‘яднаньняў у першую чаргу, ажыцьцявіць тое, што прынята на сходах вёсак. У гэтай справе трэба скарыстаць інстытут аграўпаўнаважаных, з якімі і ўстанавіць шчыльную сувязь.

Партыйныя і камсамольскія ячэйкі, с.-г. гурткі павінны дапамагчы калгасам і вытворчым аб‘яднаньням па выкананьню аграмінімуму.

### Пашырэньне пасяўной плошчы.

У пастановах вёсак вызначаны канкрэтна і плошчы, за кошт якіх будуць пашырацца пасевы, але гэта на практыцы ня ўсюды ажыцьцёўлена.

На практыцы трэба дабіцца праверкі, за кошт чаго можна пашырыць плошчу і вызначыць канкрэтна для селішча, а ў селішчы да двара. Своечасовай падрыхтоўкай да гэтага пытаньня мы сапраўды будзем мець дзесяткі тысяч гектараў новых пасяўных плошчаў.

### Падвышэньне ўраджайнасьці.

Мерапрыемствы, якія вызначаны па падвышэньню ўраджайнасьці, поўнасьцю даступны сялянству да выкананьня і нават бяз страт. Але мы назіраем, што недастаткова зварачаецца ўвага гэтым мерапрыемствам, а яшчэ больш, у некаторых мясцовасьцях падвышэньне ўраджайнасьці ставяць у залежнасьць ад таго, наколькі будзе завезена ў той ці іншы раён, альбо вёску ўгнаеньня. Асноўнае, што трэ' прымаць пад увагу пры падвышэньні ўраджайнасьці—„ужываньне прасьцейшых аграмерапрыемстваў"—да гэтага часу недастаткова праводзіцца на практыцы. Падвышэньне ўраджайнасьці павіннаісьці ў нашых умовах па наступным шляхам: правільная арганізацыя тэрыт. калгасаў, зерняачыстка, пратручваньне, палепшанае насеньне, збор попелу, ужываньне торпу на ўгнаеньне і падсьцілку, баранаваньне сенажаці, зьнішчэньне купін і хмызьнякоў на сенажацях, ахова пасеваў, пашырэньне травасеву, пашырэньне абсыпных і тэхнічных культур.

У 1930 г. мы павінны дабіцца падвышэньня ўраджайнасьці параўнальна з сярэднімі ўраджаямі 1927-28 г. і ў індывідуальных гаспадарак на 20 проц., у калектыўных на 25 проц. і ў саўгасах на 30 проц.

Прымаючы пад увагу, што зерняачыстка збожжавых расьлін падвышае ўраджай ад 10 да 15 проц., пратручваньне каля 15 проц., палепшанае насеньне да 15 проц., торп замяняе гной, калі яго класьці сумесна з гноем (ужо праветраны торп): 600 п. гною, 900 п. торпу на гектар; попел павялічвае да 50 проц. збор ураджаю з сенажацяй, калі высыпаць яго на гектар 40—50 пудоў.

Задачу, якую ставяць наша Комуністычная партыя і ўлада, па падвышэньню ўраджайнасьці можна выканаць, але трэба з усёй сур'ёзнасьцю і сваячасова падыйсьці да гэтай справы.

Калі мы „Дзень ураджаю і каляктывізацыі" ператворым у дзень праверкі зробленага і вызначым кантрольныя лічбы па падвышэньню ўраджайнасьці селішча, калгасу і саўгасу (а ў селішчы да двара), то мы пастаўленую задачу па падвышэньню ўраджайнасьці на 1930 год выканаем з перавышэньнем. Наш посьпех яшчэ больш будзе ўзмоцнены, калі мы ўсю ўвагу згуртуем на скарыстаньні мясцовых мажлівасьцяй, г. зн. праз самадзейнасьць сялянства па правядзеньню ў гаспадарках аграмінімуму.

### Кармовае пытаньне.

Падвышэньне ўраджайнасьці трэба шчыльна ўвязваць з палепшаньнем кармовага пытаньня, якое праводзіцца праз палепшаньне натуральных сенажацяй, пашырэньне пасеваў траў і караньплодаў. Вызначаючы заданьне па падвышэньню ўраджайнасьці, трэба кожнаму селішчу прадугледзець пашырэньне пасеваў канюшыны, вікі, караньплодаў, забясьпечыўшы гэта мерапрыемства нарыхтоўкай насеньня ў зімовы пэрыяд. На сходах трэба вызначыць плошчу пасеваў і даць заданьне селішчў, а ў селішчы двару, каб праз каапэрацыю сваячасова нарыхтаваць насеньня траў і караньплодаў.

### Па жывёлагадоўлі.

Практыка аграмінімуму недастаткова зьвярнула ўвагі на ўжываньне прасьцейшых мерапрыемстваў па паляпшэньню жывёлаводства, а між іншым гэтаму пытаньню трэба надаць асаблівае значэньне і ўжыць

усе захады, каб палепшыць умовы жывёлагадоўлі, а ў зьвязку з гэтым і прадукцыйнасьць жывёлы. У галіне паляпшэньня жывёлагадоўлі ў нас ёсьць шэраг спосабаў, але зараз мы павінны ўжыць тое, што мажліва яшчэ і восеньню. Па аграмінімуму было прынята: ацяпліць двары, асьвятліць іх і ў некаторых селішчах увесьці дацкія кармушкі. На Аршаншчыне вёскі ў большасьці прынялі пастановы аб ацяпленьні хлявоў. Аграўпаўнаважаныя вёсак і колектываў павінны паставіць задачу поўнага ацяпленьня двароў, скончыўшы гэту працу да 14 кастрычніка і не пазьней, у крайнім выпадку да 1 лістапада б. г.

Адначасова трэ' вырашыць пытаньне аб забесьпячэньні вытворнікамі, даручыўшы аграўпаўнаважаным падшукаць вытворнікаў і сваячасова вырашыць пытаньне аб пакупцы іх.

### Пашыраць сацыялістычнае спаборніцтва на вёсцы.

Трэба, як мага шырэй ужыць усе захады да разгортваньня спаборніцтва ў вёсках, што забясьпечыць сваячасовае і поўнае выкананьне пастаноў па аграмінімуму. Каля ходу за калектывізацыю, вытворчае каапэраваньне і падвышэньне ўраджайнасьці неабходна стварыць шырокую вясковую грамадзкасьць, уцягнуць бедняка і серадняка ў справу па ажыцьцяўленьню аграмінімуму і сацыялістычнага спаборніцтва.

Мала праверыць аграмінімум і ведаць, што вызначаецца на бліжэйшы год, але трэба ў праверку выкананьня аграмінімуму прыцягнуць нашы савецкія ўстановы—райвыканкомы і сельсаветы, каб яны праверылі, якія адмоўныя бакі маюцца па ажыцьцяўленьню аграмінімуму і дабіліся выпраўленьня памылак на бліжэйшы час.

Вопыт у нас ёсьць, актыў на вёсцы вызначыўся, таму на мясцох трэба сур'ёзна ўзяцца за выкананьне дырэктыў партыі і ўраду па праўдзеньні калектывізацыі, вытворчага каапэраваньня і ўздыму ўраджайнасьці.

К. Кіпрыянец.

---

**Калгасьнікі!Ператварэце рэлігійнае, п'янае сьвята ў сапраўднае сьвята бядняцка-серадняцкіх мас вёскі— „Дзень ураджаю і калектывізацыі".**

---




# Фонд каапэраваньня і каляктывізацыі для вясковай беднаты і батрацтва.

**Да арганізацыі фондаў каапэраваньня беднаты і батрацтва прыцягваюцца розныя віды каапэрацыі.**

У мэтах большага каапэраваньня і ўцягненьня батракоў і вясковай беднаты ў каляктывы Саюзны Саўнарком прызнаў неабходным утварыць спэцыяльныя фонды пры розных відах каапэрацыі і пры ўстановах сыстэмы сельска-гаспадарчага крэдыту. Фонды гэтыя будуць складацца наступным чынам:

1. Усе ўстановы сыстэмы с.-г. крэдыту, усе арганізацыі с.-г. каапэрацыі і працуючыя ў вясковых мясцовасьцях арганізацыі ўсіх іншых відаў каапэрацыі павінны рабіць адлічэньні ў гэты фонд па 1,5% чыстага прыбытку.

2. Усе раённыя і акруговыя саюзы спажывецкай і прамысловай каапэрацыі робяць адлічэньні па 10 проц. ад чыстага прыбытку.

3. Рэспубліканскія і агульна-саюзныя аб'яднаньні, спажывецкія і прамысловыя каапэрацыі адлічаюць па 5 проц. з чыстага прыбытку.

Акрамя ўсіх гэтых адлічэньняў, у фонд каапэраваньня і каляктывізацыі вясковай беднаты і батрацтва будуць прыцягвацца сродкі агульна-дзяржаўнага і мясцовых бюджэтаў.

Фонды, якія арганізуюцца пры сельска-гаспадарчых каапэрацыях і ўстановах сельскага крэдыту, могуць быць аб'яднаны. Аб'яднаньне гэтае адбываецца па згодзе між адпаведнымі арганізацыямі і ўстановамі, якія і заключаюць умовы на падставе агульных указаньняў з цэнтраў. Усе каапэрацыйныя арганізацыі, якія будуць мець фонды, павінны адлічаць частку з іх, але ня менш $^1/_3$ на выдачу крэдыту для аплаты паявых узносаў уноўпаступаючых у каляктыўныя гаспадаркі беднякоў і серадңякоў. Выдаваемыя крэдыты будуць бяспроцантныя і будуць выдавацца тэрмінам ад 5 да 10 год для аплаты ўступных і паявых узносаў у с.-г. каляктывы і да 5 год для аплаты паявых узносаў у іншыя каапэрацыйныя арганізацыі.

Пастанаўленьне Ўсесаюзнага СНК мае вялікае значэньне для паскарэньня тэмпу каляктывізацыі вёскі, а таксама для большага ахопу батрацкай і бядняцка-серадняцкай часткі вясковага насельніцтва як каапэраваньнем, так і каляктывізацыяй.

В.-Л.

# Аб арганізацыі тэрыторыі буйнага калгасу.

Пры арганізацыі якой-бы ні было гаспадаркі арганізатар павінен ставіць перад сабой мэту арганізаваць гаспадарку так, каб пры найменшых затратах можна было атрымаць найбольшыя прыбыткі. Гэта павінен памятаць кожны арганізатар, аграном ці кіраўнік калгасу, асабліва буйнага.

У сучасны момант, у зьвязку з уздымам каляктывізацыі, шэрагу сельсаветаў, з ахопам у калгасы цэлых вёсак, значна ўскладняецца пытаньне арганізацыі сядзібы гэтых калгасаў. Як прыклад можна прывесьці с.-г. арцель „Камунар" (Магілеўшчына), Клімавіцкага р. Гэты буйны калгас ахоплівае амаль увесь Савініцкі с.-с. і аб'ядная 8 вёсак, у якіх налічваецца 271 гаспадарка на плошчы 4225 *га*.

Цэнтрам гэтых 8 вёсак зьяўляецца вёска „Савінічы", ад якой рэшта вёсак, за выключэньнем адной, знаходзяцца на адлегласьці 2—3 кілёмэтраў, а край іх зямлі адстае ад цэнтру на 4 кілёмэтры.

Калі ў гэтым буйным калгасе, з суцэльным масывам зямлі звыш 4000 *га*, у зьвязку з заканчваньнем земляўпарадкаваньня, спаткаліся з неабходнасьцю правядзеньня гаспадарчага ўпарадкаваньня з вызначэньнем месца для сядзібы, дык пачаліся розныя меркаваньні, перапіскі і адразу пачало адчувацца, наколькі там не падрыхтаваліся да арганізацыі буйнай гаспадаркі.

Калгасьнікі мяркуюць арганізаваць 4 сядзібы. Між тым з АКРЗА пішуць каморніку, які працуе ў арцелі „Камунар Магілеўшчыны", ні ў якім разе не праводзіць упарадкаваньне пакуль акруговы аграном (сядзіць у сябе ў габінэце ў акрузе і ні разу ня быў на месцы ў арцелі) ня ўзгодніць гэтае пытаньне з с.-г. акадэміяй.

Гэтакі-ж прыклад можна прывесьці да с.-г. арцелі „Бальшавік" Пуцімльскага с.-с., які каляктывізаваны на 75 проц. і г. д.

Усё гэта сьведчыць аб тым, што такой важнай справай, як пытаньне арганізацыі тэрыторыі буйных калгасаў нашы навуковыя ўстановы да апошняга часу не займаюцца.

Вызначэньне месца для сядзібы і ўстанаўленьне аднаго, альбо некалькіх цэнтраў у тым ці іншым буйным калгасе—шчыльна зьвязана з канфігурацыяй зямельнай тэрыторыі, а таксама з напрамкам, які павінен быць наданы гаспадарцы (жывёлаводны, зярно-жывёлаводны, тэхнічны з перапрацоўкай бульбы і г. д.).

Гэта значыць, што пытаньне зьвязана і з інтэнсыўнасьцю гаспадаркі, якасьцю шляхоў зносін, мэханізацыяй транспарту і наогул існуючай тэхнічнай базай. Пры гэтым трэба таксама прыняць пад увагу тыя затраты, з якімі зьвязана стварэньне некалькіх сядзіб замест адной. *У мэтах зьберажэньня сродкаў—сядзібу ў буйных калгасах трэба арганізаваць так, каб яна была вызначана на старым месцы сядзібы вёскі, нават у тым выпадку, калі сядзіба знаходзіцца ня ў цэнтры тэрыторыі калгасу, з тым, каб жылыя будынкі заставаліся на месцы, а будаваць толькі гаспадарчыя будынкі.* Трэба мець на ўвазе, што межы калгасу зьяўляюцца чымсьці сталым, а праз нейкі час усё зьмяняецца.

У залежнасьці ад ступені ўзбуйненьня калгасаў за кошт далучэньня прымежных бядняцка-серадняцкіх гаспадарак. А раз так, дык вызначаная ў калгасе сядзіба, якая зьяўляецца сёньня цэнтрам, праз поўгода ці год, у зьвязку з узбуйненьнем калгасу, будзе ў баку ад цэнтру тэрыторыі.

Таму пры арганізацыі тэрыторыі калгасу, акрамя вышэй адзначаных момантаў, арганізатарамі на месцы павінны быць ўлічаны і пэрспэктывы ўзбуйненьня калгасу.

Як канкрэтны прыклад—возьмем с.-г. арцель „Бальшавік" Пуцімльскага с.-с., Клімавіцкага раёну. Арцель „Бальшавік" аб'яднае 140 сялянскіх гаспадарак і ахоплівае 1.600 *га* зямлі, з якіх пахаці 1.100 *га* і сенажаці 500 *га*.

На адлегласьці 2-х кілёмэтраў (а край зямлі на адлегласьці 3-4 клм.) ад цэнтру арцель „Бальшавік" з паўночнага і заходняга боку мяжуецца з зямельнай тэрыторыяй суседніх арцеляў — „Расьсьвет" у 500 *га* зямлі і „Пабеда" ў 300 *га*, якія арганізаваны ў вёсках— „Пожэр" і „Пуцімль" (усе калгасы арганізаваны ў гэтым годзе).



Ворыва талерачнаю бараною „Рандоль" у калгасе.

Пры зьліяньні гэтых калгасаў з „Бальшавіком" у апошнім неабходна арганізаваць цэнтральную сядзібу, дзе павінны быць сканцэнтраваны тэхнічныя прадпрыемствы, трактарная калёна, рамонтная майстэрня, племянныя рассаднікі, культурныя ўстановы—школа, клюб, цэнтралізаванае рахункаводзтва і г. д.

У „Расьсьвеце"-ж і „Пабедзе" ніякіх капітальных затрат на будаўніцтва не патрэбна рабіць і на кожным вучастку трэба ўстанавіць севазварот, якія адпавядаў-бы агульнаму напрамку гаспадаркі; да кожнага вучастку трэба прымацаваць адпаведную колькасьць насельніцтва,—выходзячы з запатрабаваньняў у ім.

Таму, пры правядзеньні гаспадарчага ўпарадкаваньня і складаньні арганізацыйных і вытворчых плянаў у калгасах, асаблівую ўвагу неабходна зьвярнуць на пэрспэктывы ўзбуйненьня калгасаў.

М. Цынкоў.

---

**Калгасы! У „Дзень ураджаю і калякгывізацыі"— азнаёмце ваколічнае сялянства з сваімі посьпехамі.**

# Грунтоўныя пытаньні арганізацыі працы ў буйных калгасах.

*(У парадку абгаварэньня).*

Гаспадарка буйнага калгаса павінна весьціся згодна вытворчага пляну і па ўстаноўленым парадку па сэзонных (каляндарных) плянах работ.

Праца ў буйных калгасах разьмяркоўваецца па колькасьці працаздольных сябраў згодна нараду ў савеце. Правілы складаньня нарадаў распрацоўваюцца саветам калгасу і зацьвярджаюцца агульным сходам.

Савет калгасу павінен прымаць усе крокі к поўнаму вытворчаму скарыстоўваньню ў калгасе лішкаў рабочай сілы шляхам:

арганізацыі трудаёмкіх галін гаспадаркі, жывёлагадоўлі, садоўніцтва і ўвядзеньня ў севазварот трудаёмкіх культур;

пабудовы прамысловых і падсобных прадпрыемстваў, а таксама і саматужных вытворчасьцяй.

У залежнасьці ад усяго масыву калгасу ён разьбіваецца на вучасткі прымерна па 400–500 *га* ў кожным для лепшага скарыстаньня машын, цягавай і рабочай сілы.

Апрацоўка такога вучастку ці яго часткі даручаецца асобнай брыгадзе (атраду). За гэтай брыгадай замацоўваецца на час працы пэўная колькасьць сродкаў вытворчасьці.

Напрыклад, справа можа быць так: 34 трактары—такая-ж колькасьць трактарных плугоў—1—12 дзіскавых барон, 2-3 трактарных сеялкі, 15—30 коняй, 3-4 конныя сеялкі, плугоў конных 5—10, адпаведная колькасьць трактарыстых па разьліку на кожную машыну па 2 трактарыстых (трэба, каб у пасяўную і прыборачную кампаніі працавалі ў дзьве зьмены па 10 гадзін), адзін стары трактарысты для нагляду і мелкага рамонту машын—і патрэбныя да машыны людзі, як працоўная сіла.

Вельмі пажадана, каб „штаб“ такой брыгады быў-бы ў цэнтры вучастку брыгады, тым самым было-б менш пустапрабегаў машын, і непатрэбнай хадзьбы людзей. Штаб такой брыгады можа быць у вёсцы, якая бліжэй знаходзіцца да апрацоўваемага вучастку, якая выйшла ў калгас. Шляхам састаўленьня брыгад (атрадаў) абслугоўваецца жывёлагадоўля, садоўніцтва, гародніцтва і інш. галіны гаспадаркі, таксама і вытвар асобных буйных работ (будаўнічая брыгада).

Для лепшай сувязі паміж брыгадамі кіраўніцтвам калгасу вельмі пажадана мець тэлефонную сувязь, і абавязкова пакуль што конную.

### Улік працы.

Праца кожнага сябра калгасу і членаў яго сям'і ўлічваецца па табэлю, дзе паказваецца выкананая праца і сума аплаты.

Улік выкананьня працы і колькасьць прапрацованых дзён асобнымі сябрамі вядзе брыгадны кіраўнік асобнай галіны гаспадаркі, і на аснове гэтага ўліку па табэлях кіраўніцтва калгасу запісвае ў разрахунковую кніжку кожнага сябра ўсю колькасьць праробленай працы, ці выдае ўстаноўлены квіток.

Брыгадзір ці кіраўнік асобнай галіны гаспадаркі ў канцы працоўнага дню дастаўляе ў кантору калгасу па вызначанай форме вытворчую картку, за ўвесь дзень працы ўсёй брыгады ці галіны гаспадаркі.

### Аплата працы.

У кожным буйным калгасе распрацоўваюцца нормы выпрацоўкі. Праца ніжэй устаноўленай нормы вядзе паніжэньне аплаты, незалежна ад таго, ці ўстаноўлена ў гэтым калгасе падзённая ці зьдзельная аплата.

У мэтах-жа павышэньня вытворчасьці працы грунтоўныя с.-г. работы павінны прэм'явацца.

### Кіраўніцтва працай у буйным калгасе.

Кіраўніцтва працай у буйным калгасе ажыцьцяўляецца саветам калгасу (прэзыдыумам савету), а кіраўніцтва брыгадамі (атрадамі) ажыцьцяўляецца вызначаемым саветам калгасу—брыгадзірам.

Аплата працы сяброў буйнага калгаса ўстанаўліваецца агульным сходам калгасу.

Што датычыцца тэхнічнага кіраўніцтва працай у буйным калгасе, то яно вядзецца сталым аграномам, які запрашаецца на працу саветам калгасу па ўзгадненьню з саюзам калгасаў. Правы і абавязкі такога агранома-тэхкіраўніка вызначаюцца асобным палажэньнем; гэтым-жа палажэньнем вызначаюцца і ўзаемаадносіны агранома з саветам калгасу і саюзам калгасу. Усе свае ўказаньні аграном павінен рабіць, як правіла, праз кіраўнічы склад калгасу (сяброў савету, брыгадзіраў і інш.). Іншы агрaпэрсанал—жывотнаводы, паляводы, садаводы—працуюць пад кіраўніцтвам агранома-тэхкіраўніка.



Памяшканьне калгасьнікаў у каляктыве імя „Дзяржынскага“. на Бабруйшчыне.

У мэтах распрацоўкі практычных мерапрыемстваў па арганізацыі працы, палепшаньню вытворчасьці, а таксама па ўздыму працоўнай дысцыпліны савет калгасу арганізуе вытворчыя кадры і камісіі, як для ўсёй гаспадаркі цалком, так і па асобным галінам, гаспадаркам і брыгадам.

Нармаваныя працы (уздым глебы, пасеў, малацьба і інш.) аплачваюцца зьдзельна.

У лік аплаты за працу савет калгасу выдае авансы ў разьмеры да 50 проц. належачай сябру сумы, а канчатковы разрахунак з сябрам, па аплаце працы, вытвараецца пасьля высьвятленьня гаспадарчага становішча за мінулы год.

Непрацаздольныя і інваліды ўтрымліваюцца за кошт агульных даходаў—да 20 проц. усяго фонду зарплаты. Рэшта расходаў па ўтрыманьню непрацаздольных і інвалідаў адносіцца за лік працаздольных той сям'і, у якой знаходзіцца непрацаздольны.

Адзінкі—непрацаздольныя і інваліды ўтрымоўваюцца поўнасьцю за лік буйнага калгасу. У мэтах узнаграды за найбольшую вытворчасьць і палепшаньне якасьці яе, за добрыя адносіны да с.-г. інвэнтару, ствараецца асобны фонд прэміраваньня. Гэты фонд павінен быць пры ўсякай сыстэме аплаты працы. Парадак і ўмовы прэміраваньня павінны абвяшчацца да пачатку с.-г. году па той ці іншай галіне працы.

Напрыклад, трактарыстыя прэміруюцца за працу, выкананую зьверх устаноўленай нормы, за добрыя адносіны да машыны і прыцэплай прылады, за эканомію ў гаручым і шмаравальным.

### Працоўная дысцыпліна.

За няяўку на працу, нядобрасумленныя адносіны да працы савет можа накладаць пакараньні, выгавары, а таксама і штрафы, прычым за папсуцьце маемасьці з віноўных з пэнсіі вылічваецца кошт папсаванага.

Сябры калгасу, атрымаўшыя нарад і ня выканаўшыя яго па няўважлівых прычынах, могуць па прапанове савету штрафавацца ў разьмеры кошту працоўнага дню. Замест яго можа быць пасланы на працу другі сябар калгасу.

Даўжыня працоўнага дню вызначаецца агульным сходам, у залежнасьці ад характару працы і часу году, а таксама і ад той працоўнай сілы, якая маецца для выкананьня данай працы.

А. А.

---

# За што зараз трэба ўзяцца па культпрацы ў калгасах.

„Калгасы ня могуць весьці гаспадарку па дзедаўскім звычаям і таму для калгасаў асабліва важна ўзброіцца сілай ведаў, каб вывучыць ўсё багацьце і сілы прыроды, навучыцца гэтыя сілы скарыстоўваць“—так адзначала вялікія культурныя задачы т. Крупская яшчэ ў 1925 г. Гэта значыць, што калі калгас ставіць перад сабой мэту эканамічна ўзмацніцца, не як кулацкая гаспадарка, а як каляктыў, зусім немагчыма дасягнуць яскравых гаспадарчых вынікаў без таго, каб не павышаць культурны ўзровень усіх тых, хто працуе, хто жыве ў калгасе.

Між тым на справе мы бачым часамі іншае. Калгас трошкі ўзмацніўся. Калгас змагаецца з вялікай цяжкасьцю за павышэньне прыбытковасьці гаспадаркі, сваёй працай калгасьнікі ўжо дабіліся вядомых вынікаў: лепш жывуць, харчуюцца і г. д., а культурны ўзровень? Ён часам застаецца той самы, што на вёсцы: уся тая няпісьменнасьць і тыя звычаі ў працы і жыцьці, з якімі прышлі ў калгас. І калі вы паставіце цьвёрда перад кіраўнікамі калгасу пытаньне: як і што вы думаеце рабіць па культурнай працы ў сябе, ён не заўсёды з усёй сур'ёзнасьцю будзе весьці з вамі гутарку.

Чаму? Таму што культпраца яму здаецца як нешта другараднае. „Вось калі разжывемся, купім сабе і бібліатэчку і радыё, клюб завядзем і кніжкі будзем чытаць. Ці так трэба ставіць пытаньне?

Кожны ў калгасе добра ведае, як кепска працаваць без агранома, без спрактыкаванага трактарыстага, бяз зоотэхніка, бухгальтэра і г. д. Але ён па старому звычаю лічыць, што калі-небудзь ды прышлюць з гораду гэтых вучоных людзей.

Такі погляд памылка. Горад ёсьць правадыр і настаўнік вёскі, а ня біржа працы. Сёньня калгас павінен падумаць ня толькі аб тым, як яму хутчэй атрымаць куставога агранома, але яшчэ аб тым, каб гэты аграном меў сотні кваліфікаваных рук, з якімі праводзіць тую ці іншую агранамічную справу. А іх у нас амаль што няма.

За апошнія гады кіруючыя органы калгасаў арганізуюць масу розных курсаў. Гэта каштуе шмат грошай дзяржаве. Вось у мінулым годзе было прапушчана праз курсы кіраўнікоў калгасаў каля 600 асоб. Вы думаеце, што тыя, што прайшлі праз гэтыя курсы, ужо могуць задаволіць патрэбы калякты̆унай гаспадаркі. Часам зьяўляецца на курсы малапісьменны калгасьнік яму вельмі цяжка ўсвоіць тыя ці іншыя навуковыя дысцыпліны. Я ведаю шмат выпадкаў, калі калгасы дасылалі нам на курсы і нават зусім няпісьменных людзей.



Калгасьнікі ліквідуюць сваю няпісьменнасьць.

У гэтым годзе мы таксама будзем „дыхаць“ кароткатэрміновымі курсамі, праз якія будзе прапушчана больш 2000 асоб. Толькі з калгасьнікаў і калгасьніц. Але побач з гэтым жыцьцё патрабуе таго, каб прыступіць да адчыненьня сеткі такіх сталых школ, якія былі-б прыстасаваны да запатрабаваньняў калгаснага руху.

Новыя колы калгасьнікаў павінны запоўніць усе нашы навучальныя ўстановы, асабліва па с.-г. асьвеце. Тады пытаньне аб курсах ня будзе так востра стаяць, як стаіць яно цяпер.

Але гэту задачу на практыцы ажыцьцявіць магчыма будзе ў тым выпадку, калі ў бліжэйшы год мы здолеем уцягнуць калгасы ў працу па падняцьці агульнай грамадзкасьці. Ліквідацыя малапісьменнасьці, канчатковае зьнішчэньне няпісьменнасьці—вось тая ўдарная праца, за якую калгасам трэба ўзяцца з настойлівасьцю. *Гэта ёсьць наш абавязковы культмінімум* на працягу наступнага 1929-30 году.

Якія адсюль вынікаюць практычныя мерапрыемствы для калгасаў?

Першае—культкамісіям трэба стварыць свой навучальны вытворчы плян у кожным калгасе. Кіруючым органам—стварыць магчымасьць каб няпісьменныя калгасьнікі маглі сыстэматычна наведваць школы, лікпункты (асабліва жанчынам, якія маюць малалетных дзяцей), штодзённа сачыць за тым, каб ня было пропускаў у занятках.

Другое—там, дзе няма сталых школ, скарыстаць сваіх сяброў, якія больш-менш пісьменныя, у якасьці ліквідатараў і настаўнікаў.

І трэцяе—каб ня было ніводнага буйнага калгасу бяз школ малапісьменных альбо школ дарослых, аб чым саветы калгасаў і калгассаюзы павінны ўзьняць пытаньне перад РВК і акруговымі органамі нарасьветы аб забясьпечаньні гэтых школ настаўнікамі і навучальнымі прыладамі (там, дзе калгас эканамічна яшчэ не ўзмацніўся).

Задача па ліквідацыі няпісьменнасьці і малапісьменнасьці ёсьць адно з сур'ёзьнейшых вытворчых мерапрыемстваў для калгасаў, без якога немагчыма вырашыць пытаньне і цэлы шэраг больш складаных праблем калгаснага руху.

**А. Балтынь.**



Сустрэча чырвонаармейцаў па звароце з манэўраў у г. Менск.

# ПА АКРУГАХ І РАЁНАХ

## Аб калгасным будаўніцтве на Мазыршчыне.

Ня гледзячы на тое, што савецкія, прафсаюзныя і некаторыя раённыя партыйныя арганізацыі Мазырскай Акругі да апошняга Пленуму ЦК КП(б)Б не зварачалі дастатковай увагі справе каляктывізацыі сельскай гаспадаркі, Сталыпінска-Прышчэпаўская сыстэма хутароў, выходзіць з сваёй арэны. У Мазыршчыне мы маем, як і ў другіх акругах, шпаркі тэмп каляктывізацыі. Калі на 1-е лютага 1929 году па ўсёй акрузе было 52 калгасы, на 15-е верасьня г. г. усіх каляктыўных гаспадарак налічваецца 132, што складае 130 проц. узросту.

Партыйнае кіраўніцтва ў калгасах не забясьпечана. У мінулым годзе ў 52 калгасах было 32 сябры і кандыдатаў КП(б)Б, цяпер мы маем у 132 калгасах усяго 63 сябры і кандыдатаў КП(б)Б, якія ня могуць яшчэ ўзяць на сябе кіраўнічую працу ў буйных каляктыўных гаспадарках.

Характэрна тое, што калі раней максымальная плошча пад калгасамі была ад 300—500 гектараў, дык цяпер арганізоўваюцца калгасы ад 1500—2000 гектараў. Некаторыя сельсаветы, праўда, яшчэ адзінкі пераходзяць на суцэльную каляктывізацыю (Даманавіцкі с.-с. Калінкавіцкага раёну).

Акруговыя арганізацыі, ня гледзячы на шэраг дырэктыў АК КП(б)Б, яшчэ няўважліва адносяцца да справы каляктывізацыі, а па іх прыкладу, працаўнікі сельсавету, спэцыялістыя-аграномы, лясьнічыя і землеўпарадкаваццелі.

Калі ў яўрэйскім каляктыве „Фаруйс" Каралінскага раёну ў лясным вучастку, адведзеным пад калгас, было зрублена 3 дубцы і некалькі сасёнак на месцы пабудовы жыльлёвага памяшканьня, за гэту справу бяздушныя бюракраты з лясьніцтва аштрафавалі арцель на 130 р. Гэта справа яшчэ цягнецца, але, падумайце, перадана на вырашэньне АВК.

Старшыня Прудкоўскага сельсавету адкрыта выступае супроць каляктыву „Сіла" Калінкавіцкага раёну. Пасьля таго ўжо, як землеўпарадкавацель адбіў зямлю для калгасу, сяляне выехалі яе заворваць, з мэтай перашкодзіць калгасу ў пасяўной кампаніі і севазвароце, а сельсавет да гэтага часу ня прымае ніякіх мер.

У Мазыршчыне маецца і права-апартуністычная Кандрацьеўшчына. Пры складаньні пляну васеньняй пасеўнай кампаніі Тураўскія цьвёрдалобыя аграномы-чыноўнікі прыслалі ў Раённы Выканаўчы Камітэт на зацьверджаньне плян з наступнай цытатай—„У сілу мелказямельля, гістарычных, эканамічных і бытавых умоў раёну немагчыма арганізацыя буйных калгасаў у Тураўскім раёне. Контррэвалюцыйная па сутнасьці тэорыя, адбіваючая настрой кулацкай часткі вёскі, пацярпела паражэньне і ў раёне ўжо маецца чатыры калгасы ад 150—300 гэкт.

Па некаторым калгасам у гэтым годзе маецца значная колькасьць таварнай садова-гароднай прадукцыі, якая, згодна заключаным гэнеральным дагаворам паміж Акркалгассаюзам і Акрсельсаюзам, павінна збывацца апаратам апошняга, але-ж на мясцох (у калгасах) гэтая пра-

дукцыя ў тэрмін ня прымаецца і вымушана прападаць або збывацца на прыватны рынак.

Тары, якую Акрсельсаюз павінен загатаўляць у дастатковай колькасьці, калгасы ня маюць і зачастую вымушаны па некалькі раз езьдіць на склады Акрсельсаюзу на адлегласьці 35-60 вёрст.

Пры такой пастаноўцы работы вызначаныя па заключанаму генэральнаму дагавору 15 проц. камісыйнай узнагароды ў карысьць Акрсельсаюзу законна выклікаюць нездавальненьне з боку калгасаў. Па гэтаму цэнтральныя каапэрацыйныя савецкія органы павінны ў бліжэйшы час гэта пытаньне пераглядзець, бо дагавор для калгасаў зьяўляецца кабальным.

Назіраюцца моманты бюракратычных адносін да заявак калгасаў на машыны і інвэнтар з боку Акрсельсаюзу. Калі Людзеневіцкі калгас запрасіў трыер для зернавых культур, яму выслалі канюшынны трыер. Калгас „Чырвоны Б=ец" зрабіў заяўку на дзіскавую сеялку, яму прыслалі сашніковую. Гэта толькі некалькі эпізодаў з адносін Акрсельсаюзу да справы каляктывізацыі.

Пасяўная кампанія знаходзілася пад пагрозай зрыву. Калгасы сваё палепшанае насеньне па распараджэньню Акркалгассаюзу аддалі сялянству. Па акруговаму пляну Акркалгассаюз павінен быў атрымаць ад Белсельтрэсту зярна III-й рэпрадукцыі ў колькасьці 1.746 цэнтнераў, а атрымаў усяго 1.215, з прычыны чаго некаторыя калгасы засталіся без насеньня, але за гэту справу ўзяліся органы ДПУ і Пракуратуры.

Лясы мясцовага значэньня яшчэ поўнасьцю знаходзяцца пад загадам сялян, з серадняцка-кулацкімі вёскамі. У калгасах лясоў мясцовага значэньня покуль што няма. Калгасы адчуваюць вялікую патрэбу ў будаўнічых матар'ялах, якімі яны ў дастатковай ступені не задавальняюцца, з прычыны чаго вымушаны рабіць самавольныя парубкі.

Самай моцнай формай каляктыўных гаспадарак у Мазыршчыне зьяўляецца сельска-гаспадарчая арцель. З усяго ліку 132 калгасаў у акрузе мы маем 128 арцеляй і 4 камуны.

Склад калгасаў, за некаторымі выпадкамі, пачынае замацоўвацца і пашырацца за лік новых сяброў.

За апошні час, як ніколі, з боку батрацтва, вясковай беднаты і сераднякоў маецца вялікая цяга да ўступленьня ў калгасы.

У некаторых калгасах у архівах знаходзяцца пачкі заяў аб прыёме ў сябры калгасу, але за адсутнасьцю крэдыту на будаўніцтва і жыльлёвых памяшканьняў шмат калгасаў ня прымаюць заяў, у выніку чаго вытвараюцца чаргі.

Маюцца выпадкі, калі некаторыя калгасы, як, напрыклад, арцель „Міна" Калінкавіцкага раёну ўзяла курс на ізаляцыю ад беднаты і крэдыты, адпушчаныя ёй, не жадае скарыстаць на жыльлёвыя будынкі для новых сяброў арцелі. Павялічваючы свае паявыя і ўкладныя сродкі, што ўтварае стымул выхаду з калгасаў, на нязбытыя яшчэ свае гаспадаркі.

Шпаркае будаўніцтва ў калгасах „Гігант", „Чырвоны Сьцяг" Пятрыкоўскага раёну затрымліваецца недахопам будаўнічых матар'ялаў: цэманту, ліставога жалеза, лясных матар'ялаў, якія, адпушчаюцца лясьнымі органамі вельмі дрэннай якасьці і з далёкіх ад калгасаў дзялянак (40—50 км.).

Бяднейшыя калгасы, якія склаліся з батрацтва і беднаты, як „Чырвоны Партызан" і іншыя, ня маюць дастатковага крэдыту для пабудовы жыльлёвых будынкаў, а зіма ўжо на насу.

Майстэрні па рамонту сельска-гаспадарчых машын і арудзьдзяў не забясьпечаны прыладамі і гатунковым жалезам, што бязумоўна, да

некаторай ступені перашкаджае ходу пасяўной кампаніі і падняцьцю ўраджайнасьці.

Большая палова калгасаў недаўкамплектавана рабочай сілай і вымушана доўгі час ужываць на сваёй гаспадарцы наймовую рабочую сілу.

Пры арганізацыі буйных калгасаў адчуваецца вострая патрэба ў цягавай сіле, у першую чаргу ў трактарох, бо ўтрыманьне коняй не зьяўляецца рэнтабельным, асабліва ў буйных калгасах.

Культурна-бытавая праца ў калгасах амаль што ня вядзецца. У штатах Акркалгассаюзу да гэтага часу няма яшчэ інструктара-культурніка.



У калгасе пасеў зроблен радавым сяўнікам.

Дзіцячыя ўстановы, якія былі створаны ў калгасах, 5 ясьляў, з іх 3 сталыя, 3 дзіцячых сады і 5 пляцовак былі ўкамплектаваны кіраўнікамі, толькі што скончыўшымі сямігодкі і непадрыхтаванымі да гэтай працы. Падрыхтоўкай кадраў для калгаснага будаўніцтва Мазырскай Акругі, акрамя Белкалгассаюзу і Акркалгассаюзу, павінны заняцца ўсе партыйныя, рабочыя, прафсаюзныя і шэфскія арганізацыі.

У калгасах яшчэ ня зжыты клерыкальна-рэлігійныя настроі сяброў. У нацыянальным яўрэйскім калгасе „Зорка“ і „Чырвоны Араты“ сьвяткуюць нацыянальныя сьвяты і для выкананьня тэй ці іншай працы, напрыклад, дойкі кароў у пятніцу ўвечары і ў суботу наймаюць жанчын-беларусак, што, бязумоўна, падрывае аўтарытэт калгасаў перад насельніцтвам.

З тае прычыны, што калгасы часта знаходзяцца ў далёкай адлегласьці ад населенных пунктаў, ад 2 да 5 км., школы там пакуль-што ня будуюцца і дзеці дашкольнага ўзросту школай не ахоплены. Лікбезаўская праца ў калгасах адсутнічае. Колькасьць няпісьменных за лік прыему новых сяброў з сялянства расьце. Акркалгассаюзу ў бліжэйшы час неабходна запрасіць працаўніка-культурніка скласьці плян культурнай працы, зрабіць вучот няпісьменных па ўсёй акрузе і ў тэрміновым парадку дагаварыцца з Акруговай Інспэктурай Нарасьветы, каб у бліжэйшы час пабудаваць сыстэму ліквідацыі няпісьменнасьці, пабудовы новых школ і дашкольнай адукацыі калгасьнікаў.

Шэфскія арганізацыі павінны цэнтр сваёй працы перанесьці ў калгасы.

Трэба, каб калгасы на вёсцы зрабіліся гаспадарча-палітычным і культурна-бытавым асяродкам сялянства.

Усе гэтыя моманты трэба ўлічыць Белкалгассаюзу, Мазырскім партыйным, савецкім і каапэрацыйным працаўнікам і выканаць дырэктывы XVI-й Партыйнай Канфэрэнцыі і Верасьнёўскага Пленуму ЦК КП(б)Б.

**Матвеенка.**

# Калгасы на Гомельшчыне.

За апошні год на Гомельшчыне ёсьць значны зрух у бок каляктывізацыі сельскай гаспадаркі, паварот акруговай партыйнай арганізацыі тварам да гэтага важнага вучастку працы. Ужо адно тое, што сёлета, пры земляўпарадкаваньні па акрузе зьнішчана да 250 хутароў, якія ўліліся ў калгасы і пасёлкі, а колькасьць калгасаў узрасла з 73 да 130, на плошчы 28 тысяч 873 гектары, і што заданьне Белкалгассаюзу па земляўпарадкаваньні калгасаў перавышана звыш чымся на 300 процантаў (замест 5 тысяч 700 гектароў заданьня—земляўпарадкавана 19 тысяч 134 гектары), а таксама і тое, што кантрольная лічба тэмпу па калгаснаму будаўніцтву, дадзеная Гомельшчыне цэнтральнымі органамі на 1929-30 год 100 тысяч гектараў, павялічана кіруючымі акруговымі ўстановамі да 150 тысяч гектараў.

Усё гэта сьведчыць аб пераломе, які зроблены ў першую чаргу ў акруговых адказных работнікаў і партыйных арганізацый у бок ажыцьцяўленьня лёзунгу партыі.

### Лоеўскі раён намячаецца раёнам масавай каляктывізацыі.

Сярэдні разьмер новаарганізаваных калгасаў намячаецца ў 450—500 гектараў. Гэта азначае, што каляктывізацыя павінна ахапіць цэлыя па сёлкі і вёскі, альбо, у лепшым выпадку, некалькі вёсак і пасёлкаў адразу.

Ва ўсякім разе мы павінны ў будучым годзе арганізаваць ня менш 40—50 буйных калгасаў на плошчы ад 2 і больш тысяч гектараў кожны (зараз па Гомельшчыне калгасаў плошчаю да 500 гектараў налічваецца 22.—*Я. Ш.).*

Задача вялікая і цалкам магчымая. Для пасьпяховага яе выкананьня райкомы партыі і райвыканкомы павінны зараз-жа падрыхтавацца самі і падрыхтаваць кожную арганізацыю і кожнага працаўніка раёну і вёскі,—так піша таварыш Я. Драйчук (старшыня акруговага калгассаюзу) у № 219 „Палескай Праўды“ ў сваім артыкуле „Ўзмацненьне тэмпу каляктывізацыі і нашы задачы“.

### „Рэкордная“ ўстаноўка на буйны калгас.

„Далейшае разьвіцьцё сельскай гаспадаркі павінна пайсьці па шляху буйнага калектыўнага земляробства, бо толькі на плошчы буйнага калгасу можна будзе пусьціць трактар—складаную машыну, і атрымаць большы ўраджай, забясьпечыць прадуктамі сельскай гаспадаркі нашу прамысловасьць“,—так гавораць усе пастановы вышэйшых партыйных арганізацый.

А як-жа на **Гомельшчыне?** Тут вельмі шмат гавораць пра буйныя калгасы, цэлыя папкі папер сьпісаны па гэтым пытаньні. Але на практыцы далей слоў і прыгожых рэзалюцый справа пакуль што не пайшла. Наадварот, у некаторых раёнах арганізоўваюцца „буйныя“ калгасы на плошчы... ад 50—100 гектараў.

Рэкорд у гэтым пабіў Брагінскі раён і раённы камітэт партыі, які ў лютым месяцы гэтага году, разглядаючы пытаньне аб вясеньняй пасяўной кампаніі, даў такую ўстаноўку на арганізацыю калгасаў:

„Улічваючы імкненьне бяднейшых гаспадарак уступіць у калгасы па *Пятрыцкаму, Мікуліцкаму, Дубліцкаму* сельсаветах, фракцыі райвыканкому афарміць гэтакія к моманту земляўпарадкаваньня,

бяручы ўстаноўку на буйныя калгасы. А канкрэтна на працягу 1929 году арганізаваць: *2 калгасы на плошчы ад 100—200 гектараў і 4 калгасы ад 50—100 гектараў.*

Вось табе ўстаноўка „на буйны“ калгас—50 гектараў плошчы! І ў выніку такой устаноўкі—сёлета арганізаваны: у вёсцы *Малажын* калгас з 6 чалавек на плошчы 86 гектараў усяе зямлі (пахаці з яе— 26 гект.), а ў вёсцы *В. Лес*—з 11 чалавек на плошчы 134 гектары. У вёсцы *Савічы* арганізаваны калгас з 10 чалавек на плошчы ўсяго 60 гектараў. Наогул сярэдняя плошча па Брагінскім раёне пад калгасамі—78 гектараў.

### „Дзе густа, а дзе пуста“.

Наогул, на Гомельшчыне не хапае каморнікаў і аграномаў. Той вялікі зрух, які можна бачыць у вёсках у справе перабудовы сельскай гаспадаркі на новых сацыялістычных началах, ставіць адну з асноўных задач,—гэта проблему кадраў і правільнага выкарыстоўваньня тых аграномаў і каморнікаў, якія ёсьць у акрузе.

Але што-ж мы бачым на практыцы. Як укамплектаваны раёны аграномамі і каморнікамі. Вось факты.

У Рэчыцкім раёне налічваецца 11 аграномаў, а ў Лоеўскім, толькі... два. А гэты раён зьяўляецца раёнам масавай каляктывізацыі. Ужо сёлета ў ім плошча пад калгасамі складае 13 процантаў усяе пасеўнае плошчы. І калі патрэбна было ў гэты раён перавесьці агранома з Рэчыцкага раёну на пасаду агранома-каапэратара, дык калгассаюз і акрза спаткалі належны адпор з боку акрвыканкому.

„Таварыша... Лескаўца адпусьціць мы ня можам, бо ён член Рэчыцкага райвыканкому“,—так піша Рэчыцкі райвыканком.

А бюракратычная рука адказнага акруговага работніка кладзе рэзалюцыю:

„Адмовіць і прапанаваць Лоеўскаму райвыканкому забясьпечыць раён спэцыялістымі“.

Няхай лямантуюць, просяць, пішуць „нізы“—раёны аб дапамозе калгаскаму будаўніцтву, але ў акрузе гэта „ні па-чом“. Тут прыгожыя рэзалюцыі, дзесяткі пастаноў па гэтым пытаньні, а „воз і ныне там“.

### Бяспрытульны калгассаюз

А хіба-ж не заслугоўвае ўвагі, што калгассаюз „прытуліўся“ ў вялікім пакоі, заваленым сталамі нагамі ўверх, па якіх лётаюць галкі, сарокі ды вераб‘і.

— Чатыры месяцы ганяюць нас з пакою ў пакой, былі нават ужо і ў хляве,—так крыўдзіліся прадстаўнікі калгассаюзу.

Няўжо-ж у Гомелі няма будынку, няўжо калгассаюз не заваяваў сабе месца?

А чым растлумачыць, што больш 3-х месяцаў „шукаюць“ для калгассаюзу інструктара па культмасавай працы. Няўжо-ж да гэтага часу нельга было ажыцьцявіць пастанову Белкалгассаюзу па гэтым пытаньні.

### Б‘ем трывогу.

А чым растлумачыць, што ў раёнах члены калгасаў стаяць у чарзе ў каапэрацыі за атрыманьнем тавараў і за васьмушкай махоркі трацяць некалькі гадзін. Камунары-ж комуны „Дняпроўская“, Лоеўскі

раён, крыўдзіліся, што каапэрацыя ня дала ім тавару на падэшвы, а „каапэратары“ кажуць: „дайце хлеба, дамо тавараў“.

— Мы хлеб даўно ўжо здалі каапэрацыі,—але работнікі каапэрацыі гавораць,—гэта было раней, а зараз мы даем тавар толькі таму, хто дае хлеб.

Ці ведае пра ўсё гэта Белкаапсаюз, акркаапсаюз?

А хіба-ж гэта „парадкі“, калі кіно-перасоўкі, якімі распараджаюцца райсаюзы спажывецкіх каапэрацый, бяруць курс „на грашовых“ людзей і таму вельмі вялікае шчасьце бывае для калгасу, калі кіно-перасоўка прыяжджае раз у тры месяцы.

Ці-ж так павінны абслугоўвацца калгасы згодна пастаноў XVI партыйнай канфэрэнцыі?

## „Бяз руля і без вятрыл“.

Здавалася-б, што пытаньне, як арганізоўваць калгасы, даўно ўжо вырашана і кожны больш-менш палітычна пісьменны чалавек скажа:

— *У* калгасы трэба прымаць батракоў, беднякоў і сераднякоў, бо толькі моцны саюз беднаты з серадняцтвам, забясьпечыць перамогу сацыялістычнага наступу на капіталістычныя элемэнты вёскі.

Аднак, на Гомельшчыне ў раёнах людзі яшчэ „блудзяць“, „разважаюць“—з каго-ж арганізоўваць калгасы—з беднякоў ці з сераднякоў.

Так, у Брагінскім раёне старшыня райвыканкому тав. Данец казаў, што ў калгасы ідуць пераважна сераднякі, „бядняк вагаецца“. Да рэчы, камісія па чыстцы партыі ў Брагінскім раёне, падводзячы вынікі чысткі, адзначыла на адсутнасьць працы сярод беднаты.

У Лоеўскім-жа раёне лічаць, што „ў калгасах павінна быць больш беднякоў“ (Ручаеўскі сельсавет).

Ні ў райкомах партыі, ні ў райвыканкомах няма сталых вестак, хто-ж ідзе ў калгасы, з каго яны складаюцца. Такія-ж весткі адсутнічаюць і ў акруговым калгассаюзе.

## Даць адпор абнаглелым кулакам і сэктантам.

Кулак, бачачы рост калгасаў, узмацненьне іх, з кожным днём адчувае сваю пагібель. Ён імкнецца ўсімі спосабамі перашкодзіць сацыялістычнаму будаўніцтву і разьвіцьцю калгасаў.

*У Лоеўскім* раёне кулакі вёскі *Гарохава* пры актыўным садзейнічаньні сэктантаў дайшлі да таго, што старшыні калгасу—камуністу за ноч на дварэ пад акном пабудавалі вялікі крыж, укапалі яго і забралі жоўтую зямлю, а на яе месца насыпалі чорную, а вакол крыжа наклалі муравы. А на заўтра па ўсёй вёсцы, сельсавету сэктанты распусьцілі чуткі, „што сам бог папераджае сялян ня ісьці ў калгасы, што ў нехрысьцяў-камуністаў вырастаюць з зямлі крыжы“.

Больш таго, у гэтай-жа вёсцы некалькі месяцаў таму назад беднякі-сяляне затрымалі „ангела“ з Чарнігаўшчыны, былога манаха, сэктанта па прозьвішчы Турбан, які зьбіраў цёмных сялян ды з імі развучваў „сьвятыя“ песьні, накіраваныя супроць Савецкай улады, агітаваў сялян ня ісьці ў калгасы. І калі беднякі і сераднякі ўсё-ж-ткі арганізавалі калгас, пашлі ў яго і выкрылі ўсе кулацкія і сэктанцкія махінацыі,—кулакі пашлі далей і праз некалькі дзён падпалілі ўсю маемасьць старшыні калгасу. Гэтым кулакі думалі сарваць калгас, запужаць беднату. Але дарма! Ім гэта не ўдалося!

А вось, што расказваюць нам камунары камуны *„Дняпроўская“, (Лоеўскі раён)* пра кулацкую агітацыю супроць калгасаў.

— Да нас кожны тыдзень прыходзяць экскурсіі сялян, каб пабачыць, як мы жывем у камуне. За 30—40 вёрст, а нават і з Чарнігаўшчыны прыяжджаюць сяляне, каб пераканацца, „ці галадаюць людзі ў камуне, ці праўда, што ў камуне людзі ходзяць голымі ў рагожах, а дзеці ходзяць па вёсках ды просяць хлеба? Ці праўда, што бальшавікі пазабіралі ў камунараў увесь хлеб“? І калі мы паказваем сялянам запасы нашага хлеба, добрых сьвіней, коняй ды машыны, паказваем, што варым, ямо, тады сяляне, пабачыўшы, заяўляюць: „Ну і нахлусілі-ж пра вас нашыя кулакі і падкулачнікі! Каб пабачылі, якую супроцькалгасную агітацыю яны вядуць у вёсках! Кулакі кажуць, што камунараў у першую чаргу будуць вешаць, што хутка будзе вайна— прыдуць кітайцы ды белапалякі,—так гавораць сяляне з вёсак нам—членам камуны.

І пабачыўшы ўсё, што ёсьць у нас добрага і благога, члены экскурсіі заяўлялі:

— Мы першыя ідзем у калгас.

У выніку такіх экскурсій—у вёсках арганізаваліся буйныя калгасы.

---

# Каляктывізацыя ў Копыльскім раёне.

*(Меншчына).*

У Копыльскім раёне, Менскай акругі, каляктывізацыя атрымала шпаркі тэмп (з 28 жніўня г. г.).

Усе савецкія, партыйныя і грамадзкія ўстановы раёну былі падрыхтаваны да гэтага дню. Адпаведныя таварышы разьмеркаваны па ўсім насельным пунктам для падрыхтоўчай працы. У выніку гэтай працы ў раёне да канца жніўня арганізавалася каля 8 калгасаў.



Цяжкую працу касьбы ў калгасе выконвае машына.

Да апошняга часу ў раёне было 11 дробных калгасаў, якія галоўным чынам заснаваліся на сядзібах былых абшарнікаў з яўрэйскага насельніцтва мястэчка Копыля.

Усе калгасы Копыльскага раёну можна падзяліць па тэрыторыі, а таксама па ўмовах, больш-менш зьвязаных эканамічна, на 2 часткі— на паўднёвую і паўночную. Таму намечаны да арганізацыі 2 кусты. 1-шы паўднёвы, асяродкам якога лічыцца калгас „Ленінец“, які арганізаваўся з вёскі Усава з далучэньнем старога калгасу імя Абрамовіча.

„Ленінец“ мае каля 800 *га* зямельнай плошчы, 70 двароў з лікам 180 працоўных душ, знаходзіцца ў адлегласьці 4 клм. ад м-ка Копыля. Непасрэдна з ім мяжуюцца новаарганізаваныя калгасы „Ўсход“—172 *га*, „Перац“—178 *га*, „Бальшавік“—450 *га*. Да калгасу „Перац“ непасрэдна прымыкае калгас „Новае жыцьцё“, а к калгасу „Новае жыцьцё“ прымыкае новаарганізаваны калгас „Чырвоны травень“, які мае 170 *га* з садова-агародным напрамкам. Калгас „Ленінец“ мяжою зьвязан з калгасам „Сталінец“. Такім чынам, у сучасны момант у 1-м кусьце налічваецца прыблізна 2.746 *га*, сярэдняя адлегласьць ад асяродку, г. зн. ад „Ленінца“, раўняецца 2½ клм.

На адлегласьці 15—17 клм. з паўднёва-заходняга боку м-ка Копыля маецца 2 калгасы,—1 стары пад назваю „Інтэрнацыянал“ у 111 *га*, другі арганізаваўся ў вёсцы Кявічы, дзе ўваходзіць цалкам ўся вёска, з плошчай 350 *га* і колькасьцю двароў—52. Апошнія 2 калгасы трудна далучыць да куста, дзякуючы іх значнай адлегласьці ад другіх калгасаў. Пры абгаварэньні на нарадзе Копыльскага Райвыканкому яны павінны абслугоўвацца вучастковым аграномам і павінны мець сувязь з першым кустом праз сваіх прадстаўнікоў.

Што-ж датычыцца да другога куста, які знаходзіцца ў паўночнай частцы раёну, дык асяродкам яго лічыцца калгас „Тружанік“, да якога далучыўся калгас, арганізаваны з жыхароў вёскі Пячуран, у 400 *га* з 31 дваром. Такім чынам „Тружанік“ прадстаўляе сабою калгас у 39 двароў, з зямельнаю плошчай 480 *га*. У дадзены куст уваходзіць 7 калгасаў. Сярэдняя адлегласьць усіх калгасаў ад „Тружаніка“—4 клм. Усёй зямлі ў другім кусьце налічваецца прыблізна 1.336 *га*.

На пабудову сьвінарнікаў у калгасах раёну пераведзена 14.000 руб. Райвыканком ухваліў пабудаваць сьвінарнікі ў калгасе „Інтэрнацыянал“ і ў калгасе вёскі Кіявічы.

Лепей было б пабудаваць сьвінарнік у першым кусьце, у калгасе „Сталінец“, бо тут будзе шмат малочных адкідаў, да і самы калгас больш буйны і кармавая база досыць значная. Аднак, Райвыканком на гэтую прапанову канкрэтна не адказаў і пытаньне засталося адчыненым.

Скотны хлеў намечана пабудаваць у асяродку 1-га куста ў калгасе „Ленінец“. Плян і каштарыс па хляву складзены. Хлеў будзе каштаваць 20.000 руб. і будзе зьмяшчаць 100 галоў буйнай рагатай жывёлы. На пабудоўлю пераведзена 10.000 руб. і дана заданьне Акркалгассаюзам будоўлю хлева скончыць ў кастрычніку г. г. Калгасьнікі прыступілі да загатоўкі матар'ялу, але шмат часу патрачана на спрэчкі, бо большасьць жадала пабудову хлява спыніць да будучага году.

Трэба адзначыць, што па Копыльскаму раёну пачалася масавая калектывізацыя, якую трэба падтрымаць у адносінах агітацыйных, інструкцыйных і арганізацыйных. Дзякуючы таму, што ў першым кусьце 8 калгасаў, якія мяжуюцца паміж сабою, неабходна ў недалёкім будучым прыступіць да арганізацыі аднае буйнае гаспадаркі і надаць ёй зярнова-жывёлагадоўчы ўхіл, з пабудовай буйнага масла-сыраварнага заводу.

Ня гледзячы на кароткі тэрмін існаваньня нова арганізаваных калгасаў (толькі адзін месяц) вынікі атрыманы значныя. Васеньняя пасеўкампанія скончана вельмі ўдала: пасеў зроблены выключна гатунковым насеньнем, плошча азімага кліну значна павялічана, асабліва ў тых вёсках, дзе арганізаваліся калгасы.

Інструктар-аграном **Гарбачоў**.

# Ніводнага калгасу, калгасьніка і сялянскай гаспадаркі без аблігацыі трэцяй пазыкі індустрыялізацыі.

## Калгасьнік, на дапамогу індустрыялізацыі краіны.

Падведзеныя ўлікі распаўсюджваньня 3-яй пазыкі індустрыялізацыі сьведчаць аб тым, што 3-я пазыка не пранікла ў вёску, як сьлед, што да гэтага часу па ўсяму СССР выканана 33,3% і па БССР 54,3% заданьня, якое было дадзена для разьмеркаваньня пазыкі сярод сялянства. Гэта яскрава сьведчыць аб тым, што нашы партыйныя, камсамольскія, каапэратыўныя, шэфскія і прафэсыянальныя арганізацыі да гэтага часу мала ўдзялілі ўвагі вельмі важнай справе як у эканамічных, так і ў палітычных адносінах. Вось таму індывідуальна-сялянскія сродкі ня ўцягнуты ў вялікую справу сацыялістычнага будаўніцтва, між тым, як рабочая кляса, у часе розных кампаній, аддае частку свайго заробку і дапамагае Савецкай уладзе ў пабудове сацыялізму. У гэты-ж час вялікая частка насельніцтва нашага Саюзу (сялянства) знаходзіцца ў баку ад гэтае справы і ня прымае ніякага ўдзелу ў будаўніцтве. Гэтае становішча ненармальнае, бо частка насельніцтва ня ўцягнута ў пабудову сацыялізму, не адчувае адказнасьці за ўсю гэту працу, а дзеля гэтага і не знаходзіцца пад уплывам перарабленьня сваёй індывідуальнай псыхолёгіі ў аграмаджаную.

Пасьпяховая пабудова сацыялізму ў нашай краіне можа праходзіць шпаркім тэмпам пры ўмове, калі працоўныя масы будуць актыўна ўдзельнічаць у гэтай працы. А адсюль вынік, што калі яшчэ да гэтага часу ня ўсё зроблена, то нам трэба яшчэ шмат патраціць сіл і часу на правядзеньне растлумачэньня сярод той часткі насельніцтва, якая стаіць яшчэ ў баку, якая ня мае перад сабой яскравага шляху новага жыцьця.

Працу гэту правесьці адразу немагчыма. Але гэта ня значыць, што мы па-кампанійскі „от поры до времени“ павінны гэтай працай займацца, а то і зусім не. Так глядзець на гэта мы не павінны, нам трэба паставіць працу так, каб перарабленьне і перавыхоўваньне гэтае часткі насельніцтва ішло неперарыўна і рознымі шляхамі як праз культасьветную працу, прафсаюзы, шэфствы, каапэрацыю, праз каляктыўны сэктар і партыйна-камсамольскія арганізацыі, каб уся гэта праца накіроўвала свой уплыў к аднаму пункту і бесьперарыўна. Толькі пры такім мэтадзе правядзеньня працы мы здолеем уцягнуць у новае жыцьцё тых, якія да гэтагу часу яшчэ ня ўцягнуты.

Пры правядзеньні розных мерапрыемстваў, намечаных Савецкай уладай пры наступленьні сацыялістычнага сэктару на капіталістычны, прыходзіцца вясьці вострую клясавую барацьбу з кулацкай часткай вёскі і нэпманам у горадзе. Гэтая барацьба будзе праходзіць з посьпехам тады, калі ў ёй прымуць удзел—у вёсцы батракі, сельгаслесрабочыя, вясковая бедната, а ў горадзе пралетарыят. Тады ніякія кулацка-нэпманаўскія зграі ня будуць нам прыносіць шкоды, якую яны яшчэ прыносяць. Нашай асноўнай задачай зьяўляецца — вясьці

барацьбу як на эканамічным, таксама і на палітычным фронтах, бо пры распаўсюджваньні 3-яй пазыкі індустрыялізацыі прыходзіцца сустракацца з контр-агітацыяй супроць пазыкі і наогул розных нашых мерапрыемстваў па перабудове краіны. Асабліва такая агітацыя праводзіцца сярод сялянства; распаўсюджваньне 3-яй пазыкі паказала, што пазыка здавальняюча распаўсюджваецца сярод рабочых і служачых гораду, сярод якіх ужо распаўсюджана 535 мільёнаў рублёў па СССР і 12.357.700 руб. па БССР, зусім нездавальняюча праходзіць сярод вясковага насельніцтва. На вёсцы да гэтага часу распаўсюджана 67,3 мільёна, што складае 33,3% па СССР і 814500 руб. па БССР, што складае 54,3% заданьня. Сярод-жа іншых да гэтага часу распаўсюджана ўсяго толькі 25,8 мільёнаў па СССР, што складае 51,5%, і 535.800 руб. па БССР, што складае 71,4% вызначанага заданьня.

Чым гэта тлумачыцца, што так мала распаўсюджана ў вёсцы і сярод іншых. Тлумачыцца гэта тым, што не праведзена растлумачэньне сярод вясковага насельніцтва аб ролі займу індустрыялізацыі ў правядзеньні пяцігодкі і перабудове сельскай гаспадаркі.

Кожны калгасьнік, сельгасрабочы, бядняк, серадняк павінен ведаць, што ў мінулым бюджэтным годзе на разьвіцьцё народнае гаспадаркі было патрачана 2.976 мільёнаў рублёў, з якіх амаль што 1/3 усяе сумы была ўзята шляхам займаў. У гэтым бюджэтным годзе будзе патрачана на разьвіцьцё народнае гаспадаркі каля 3.346 мільёнаў руб., з якіх 27,5% будзе пакрыта займамі.

Прыведзеныя мною лічбы яскрава сьведчаць, якую ролю адыгрывае заём у правядзеньні пяцігодкі.

Кожны калгасьнік, сельгаслесрабочы і бядняцка-сярэдняцкая частка сялянства павінны ведаць, што з 750 мільёнаў 3-га займу індустрыялізацыі, на разьвіцьцё сельскай гаспадаркі пойдзе каля 200 мільёнаў. За гэтыя сродкі будуць набыты для калгасаў сельска-гаспадарчыя машыны, угнаеньне, пабудаваны школы і інш., што дасьць магчымасьць яшчэ шырэй разгарнуць працу па перабудове сельскай гаспадаркі і правядзеньні каляктывізацыі.

Акрамя гэтага, набытыя аблігацыі даюць вялікую карысьць, таму што па працэнтна-выйгрышным аблігацыям выйгрыш падае на кожныя 12 аблігацый, а па беспрацэнтным аблігацыям выйгрыш падае на кожныя 5-6 аблігацый; выйгрышаў будзе 2.266 тыс. за ўвесь час займу. Гэта яшчэ яскравей даказвае, што ўсю сваю ашчаднасьць лепш разьмяшчаць у займах, праз якія магчыма мець добрыя выйгрышы.

Што павінны рабіць калгасы ў гэтай справе? Яны павінны праводзіць паміж сабой спаборніцтва, уцягваючы ў яго цэлыя вёскі для каляктыўнай падпіскі. Для лепшага правядзеньня працы трэба выдзеліць ўдарныя брыгады, калі яны яшчэ ня выдзелены, каб яны сумесна з рознымі арганізацыямі праводзілі гэтую працу. Вялікую ролю ў гэтай працы павінна адыграць вясковая інтэлігенцыя: настаўнікі, аграномы, дактары і інш., якія павінны ўвесь раён сваёй мясцовасьці падзяліць на вучасткі, прымацаваўшы па аднаму для інструктаваньня і дапамогі к ударным брыгадам і вясковаму актыву, які ў гэтых мясцовасьцях праводзіць працу.

Для дачы справак па займам, пры ўсіх культ-палітасьветных установах, калгасах, саўгасах, с.-г. арцелях, машынных т-вах, сельсаветах, трэба арганізаваць, калі яшчэ не арганізаваны, справачныя бюро па займам, у якіх-бы кожны жадаючы набыць і ўжо набыўшы аблігацыю мог-бы атрымаць даведку аб спосабе набыцьця, аб выйгрышах і аб выплаце працэнтаў.

Справачнае бюро трэба таму, што на 1-е мая 1929 года па СССР не атрымана было выйгрышаў на 20 мільёнаў і процантаў па аблігацыям на 13 мільёнаў. Гэта сьведчыць, што 33 мільёны руб. ляжыць у банках СССР неатрыманымі таму, што ўладары аблігацый ня ведаюць аб гэтым. Больш усяго няпісьменных па займам сустракаецца сярод вясковага насельніцтва (сялянства). Калі калгасьнік, сельгасработнік, бядняк, серадняк будзе ведаць, што ён сваячасова можа атрымаць даведку аб выйгрышах і працэнтах, дык распаўсюджваньне будзе праходзіць з яшчэ большым посьпехам.

Распаўсюджваньне займу—гэта палова працы, самае галоўнае, каб уласьнікі аблігацый трымалі іх на працягу таго часу, на які заём выпушчаны, каб не прадавалі аблігацый бяз вострай патрэбы, бо калі мы цяпер распаўсюдзім, а праз месяц гэтыя аблігацыі будуць праданы, такім распаўсюджваньнем дзяржаве мы не дапаможам. Пры распаўсюджваньні трэба кожнаму трымацелю аблігацыі, як ранейшых займаў, таксама і набытых зараз, растлумачыць аб шкоднасьці продажу аблігацыі раней вызначанага тэрміну. Гэтую працу трэба праводзіць, дзе толькі магчыма, бо ў нас каля 8 мільёнаў асоб маюць аблігацыі ранейшых займаў, а сярод іх ёсьць шмат калгасьнікаў і бядняцка-серадняцкага сялянства, якія павінны ведаць, што аблігацыі трэба захоўваць у працягу ўсяго тэрміну займу.

Мы ведаем, што з 750 мільёнаў руб. 3-га займу трэба распаўсюдзіць сярод вясковага насельніцтва 200 мільёнаў па СССР, з іх па БССР каля 1.700 тыс. руб. Гэтую працу мы зможам пасьпяхова правесьці пры актыўным удзеле ўсяго вясковага актыву і розных арганізацый. Нашым лёзунгам павінна быць, „што кожны калгасьнік, сельгаслесрабочы, бядняк, серадняк павінны набыць сабе аблігацыі“ і „што ніводнага калгасу, саўгасу, калгасьніка, сельгаслесрабочага і ніводнага сялянскага двара не павінна быць без аблігацыі 3-га займу індустрыялізацыі“. Калі мы гэты лёзунг выканаем, а выканаць мы яго павінны, бо на гэта ёсьць усе ўмовы, але толькі пры правільнай пастаноўцы працы, тады мы выканаем ня 120 проц. заданьня, якое выканана па БССР на 20-IX—29 г., а 200 проц.

Пры правядзеньні „Дню ўраджаю і каляктывізацыі“ ўсяму вясковаму актыву трэба ўдзяліць максымум сілы для правядзеньня растлумачэньня і распаўсюджваньня 3-яй пазыкі, каб адначасова з арганізацыямі новых каляктыўных гаспадарак ішло і распаўсюджваньне займу, каб у гэты дзень мы дабіліся 100 проц. выкананьня свайго лёзунгу, каб у гэты дзень кожны калгасьнік, сельгаслесрабочы, бядняцка-серадняцкая гаспадарка, якія яшчэ да гэтага часу ня маюць аблігацыі 3-га займу, у гэты дзень усе як адзін іх набылі. Калі гэта мы выканаем, мы гэтым давядзем, што Савецкі Саюз, без кабальнага замежнага капіталу, будуе сацыялістычную гаспадарку ў сваёй краіне і што яшчэ шпарчэй мы яе будзем будаваць, ня гледзячы на розныя вылазкі з боку контр-рэвалюцыйных арганізацый, якія стараюцца перашкодзіць сацыяльнай будове.

**Воўк-Левановіч.**

**Ніводнага кілё хлеба на прыватны рынак. У дзень ураджаю і калянтывізацыі арганізуем тысячы чырвоных абозаў для здачы хлеба дзяржаве.**

# Калгасы, здавайце лішкі збожжа дзяржаве поўнасьцю і ў тэрмін.

### Хлебазагатоўкі—палітычны экзамін для калгас. сыстэмы.

*Поўная і тэрміновая здача калгасамі ўсіх хлебных лішкаў зьяўляецца цэнтральнай нашай задачай на бліжэйшы час.*

Усякія выпадкі затрымкі, а таксама продаж прыватніку хлеба, альбо іншых спажывецкіх культур—зьяўляецца злачынствам з боку калгасаў перад дзяржавай.

Дзяржава поўнасьцю і сваячасова выканала свае абавязкі перад калгасамі ў час вясеньняй і асеньняй пасеўных кампаній. Калгасы



Сяляне рагачоўскага раёну ў падарунак Чырв. арміі. здаюць 6.000 пуд. хлеба. Абоз складае 300 хурманак.

атрымалі ад дзяржавы праз сельска-гаспадарчую каапэрацыю крыдыты, насеньне, мінэральныя ўгнаеньні, машыны і іншыя сродкі вытворчасьці. Гэта дало магчымасьць калгасам поўнасьцю і сваячасова засеяць палеткі, падвысіць ураджайнасьць як з колькаснага, так і з якаснага боку і наогул палепшыць сваю гаспадарку.

Лепшым адказам на гэтую дзяржаўную дапамогу з боку калгасаў павінна быць сьвядомае і дабрасумленнае выкананьне дагавароў па кантрактацыі, а таксама поўная і тэрміновая здача дзяржаве ўсіх таварных лішкаў як жыта, так і іншых збожжавых культур.

Верасень месяц г. г. зьяўляецца *асноўным м-цам у час хлебазагатоўчай кампаніі* па калгасах. Гэты месяц—павінен зьявіцца часам экзаміну для калгасаў і ўсёй калгассыстэмы Беларусі.

*Гэты экзамін мы павінны ў асноўным* вытрымаць як перад тварам вышэйшых дырэктыўных і ўрадавых органаў, так і перад усім беднацка-серадняцкім сялянствам БССР. Чаму?—А таму, што *гэта неабходна для посьпеху ўсёй хлебазагатоўчай кампаніі і наогул. для посьпеху ўсёй справы калякытывізацыі на вёсцы.*

### Хлебазагатоўкі ідуць марудна.

*Разгортваньне хлебазагатоўчай кампаніі па калгасам да апошняга часу праходзіць вельмі марудна.*

Шмат часу з пачатку кампаніі прайшло бяз ніякага ўдзелу з боку Акруговых саюзаў калгасаў.

Мы павінны канстатаваць, бязумоўна, затрымлены тэмп работы па хлебазагатоўкам.

У выніку ўсяго гэтага—здача збожжавых лішкаў калгасамі, ня гледзячы на спрыяючыя для гэтага ўмовы, як у адносінах ураджаю, так і рэальных плянавых заданьняў—затрымліваецца і можа быць сарвана.

*Мы бачым, што ўся калгассыстэма БССР зьверху да нізу не ўсьвядоміла неабходнасьці поўнага выкананьня заданьняў па здачы лішкаў хлеба дзяржаве, не ўсьвядоміла неабходнасьці здаць экзамін на сваю палітычную сьпеласьць.*

Згодна плянавых заданьняў калгасы Беларусі павінны здаць на 1-е кастрычніка 3.300 тон усіх збожжавых культур.

Што-ж мы бачым? На 20 верасьня калгасамі, па няпоўных зьвестках было здана 511 тон збожжа. На 25 верасьня гэтая колькасьць, па няпоўных зьвестках, павялічылася толькі да 748 тон.

Ва ўсіх акругах ня прыняты меры да паскарэньня абмалоту калгасамі ярыны.

*Зусім дрэнна абстаіць справа з падлікамі здачы.* Няма ніякай увязкі паміж хлебазагатаўцелямі і акркалгассаюзамі.

У той час, калі па зьвестках Белсельсаюзу калгасамі Бабруйшчыны здано 212 цэнтнэраў хлеба—па зьвестках Акркалгассаюзу—ужо здано 1700 цэнтнэраў.

Здараецца і наадварот: Менскі Акркалгассаюз паведамляе, што калгасамі акругі здано на 27 верасьня 762,7 цэнт. жыта, а Акрсельсаюз паведамляе, што здано—на 26 верасьня 1013,3 цэнт.

*Гэта паказвае, што Акркалгассаюзы яшчэ недастаткова зьвязаліся з належнымі акруговымі ўстановамі, якія праводзяць хлебазагатоўкі, ніяк ня могуць наладзіць хуткі, сыстэматычны, дакумантальны (за 2 подпісамі) улік усяго здаваемага калгасамі збожжа, а таксама дакумантальна падлічыць, што здана калгасамі да апошняга часу па кантрактацыі, альбо чырвонымі абозамі па лініі спажыўкаапэрацыі і Саюзхлебу.* Таксама ня зусім выконваецца дырэктыва Белсельсаюзу аб тым, каб кожнае крэдытнае таварыства ў дзень атрыманьня збожжа ад кожнага калгасу тэрмінова паведамляла-б аб гэтым Акркалгассаюз.

### Ход хлебазагатовак па калгасам у акругах.

Ня гледзячы на суровыя дырэктывы акркалгассаюзам аб дачы зьвестак 27 верасьня па хлебазагатоўках на 25 верасьня—ня ўсе акругі гэта выканалі. Мы ўсё-ж маем няпоўныя зьвесткі.

Як абстаіць справа з ходам хлебазагатовак па акругах, відаць з наступнага:

| Назва акругі | Плянавае заданьне па здачу калгасамі ўсіх абожжавых культур у цэнтнэрах | | Выканана калгасамі акругі цэнт. | %% выкан. пляну |
|---|---|---|---|---|
| | Усяго | На 1-X 29 | | |
| 1. Менская | 8455 | 6341,25 | 1013,3 | 15,9 |
| 2. Бабруйская | 5300 | 3975 | 1700 | 42,7 |
| 3. Полацкая | 3690 | 2817,5 | 703 | 28,5 |
| 4. Гомельская | 2226 | 1669,5 | 664 | 39,7 |
| 5. Віцебская | 4320 | 3240 | 1100 | 33,9 |
| 6. Магілеўская | 10330 | 7747,5 | 940 | 12,1 |
| 7. Аршанская | 4816 | 3612 | 800 | 22,1 |
| 8. Мазырская | 3219 | 2414,25 | 563 | 23,3 |
| Усяго па БССР | 42356 | 31767 | 7483,3 | 22,6 |

Такім чынам, толькі па Бабруйскай, Гомельскай і Віцебскай акругах калгасамі здано звыш трэцяй часткі заданьня. Такія-ж акругі, як Магілеўская, Менская, Аршанская, Мазырская і Полацкая зусім адсталі.



700 падвод сялян Неманіцкага с.-с. Барысаўскага раёну здаюць хлеб у карысьць індустрыялізацыю краіны.

Гэтаму спрыяюць і такія абставіны, як напрыклад, па Менскай акрузе, дзе Капыльскае крэдытнае таварыства ня прыймае жыта ад калгасаў, а кажа: „пачакайце, браточкі... з вамі мы заўсёды зробім справу... Нам-жа зараз трэба ў першую чаргу выканаць загатоўкі ся-

род індывідуальнага сялянства". Такія настроі сярод хлебазагатаўвіцеляў трэба раз і назаўсёды ліквідаваць. *Мы не дапусьцім, каб самі хлебазагатаўвіцелі сарвалі здачу хлеба калгасамі ў тэрмін.*

**Узялі ў пазыку—павінны зьвярнуць.**

Па распараджэньню старшыні Савету Народных Камісараў БССР т. Галадзеда Наркамгандлем было вылучана 30.000 пуд. жыта для выдачы новаарганізаваным калгасам насеньня для засеву зімовага кліну. Гэтае жыта выдана за рахунак таварных лішкаў Савецкіх гаспадарак Белсельтрэсту, падлягаючых здачы Саюзхлебу.

У зьвязку з гэтым, колькасьць жыта, падлягаючая здачы дзяржаве ў гэтым годзе па калгасам—павінна павялічыцца з 984 тон да 1476 тон.

Мы маем упэўненасьць у тым, што асноўная маса калгасаў Беларусі ахвотна ідзе на выкананьне сваіх абавязкаў перад дзяржавай.

Лепшыя калгасы гэта сапраўды ажыцьцяўляюць на практыцы: новыя буйныя калгасы Магілеўшчыны „Ленінскі шлях" і „Камунар Магілеўшчыны" здалі чырвонымі абозамі 2000 пуд. жыта. Калгасы Гомельшчыны „Дружба 1-я", „Рэчкаўская першамайская", камуна „імя Крапоткіна", „Чырвоная плошча" і іншыя здаюць хлеб са значным перавышэньнем пляну.

Усе калгасы Беларусі павінны ўзяць прыклад калгасаў Магілеўшчыны і Гомельшчыны.

У „Дзень ураджаю і Каляктывізацыі", у гэтае вялікае сьвята ўсяго працоўнага сялянства Беларусі і працоўных гораду—калгасы павінны стаць на чале хлебазагатовак і, арганізаваўшы сотні і тысячы чырвоных абозаў разам выканаць свае абавязкі перад дзяржавай.

Зараз-жа тэмп хлебазагатовак павінен павялічыцца такім чынам, каб да першага кастрычніка было выканана калгасамі 75 проц. гадавога заданьня.

К-ў.

---

# Саўгас Палялюм.

Саўгас Палялюм ляжыць у 3 клм. на ўсход ад в. Забашавічы і арганізаваўся на месцы былога маёнтку памешчыка Ванькова. Становішча саўгасу да 1927 г. было досыць кепскае: не хапала будынкаў *), жывёлы было мала, угнаеньня ня было, зямля высілялася і дрэнна радзіла. З прычыны недахопу інвэнтару і кепскай арганізацыі ўсяе сыстэмы гаспадаркі, адсутнасьці належнага кіраўніцтва зямля ў значнай частцы знаходзілася ў эксплёатацыі сялян суседніх вёсак. З 1927—28 г. становішча саўгасу пачынае паляпшацца ў сувязі з лепшым кіраўніцтвам гаспадаркай і падняцьцем працоўнай дысцыпліны сярод рабочых.

У гэтым годзе гаспадарка саўгасу значна павялічылася з далучэньнем былой калёніі папраўчага дому „Адраджэньне" (ля в. Слабодка). Апрача гэтага, саўгас мае яшчэ ў в. Гара вадзяны млын.

Асноўнымі галінамі гаспадаркі зьяўляюцца палявая гаспадарка (зернявая культура) і жывёлагадоўля.

---

*) Паводле слоў рабочых, і тыя будынкі, якія былі, разьбіраліся і прадаваліся па загаду былога загадчыка саўгасу; справа даходзіла да пракурора.

Замельная плошча саўгасу па ўгодзьдзях разьмяркоўваецца наступным чынам:

| Плошча па ўгодзьдзях у гект. / Гаспадаркі | Сядзіба | Гарод | Сад | Пашня | Сенажаць: Поплаўн. | Сенажаць: Балотн. | Выган | Лес | Хмызьнякі | Няўдобіца | Разам |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Палялюм . . | 9,0 | 6,96 | 1,65 | 415,55 | 32,72 | 140,0 | 10,19 | 94,0 | 66,05 | 14,18 | 776,12 |
| Слабодка . . | 5,89 | 0,83 | 1,0 | 62,26 | 5,45 | 30,52 | 2,73 | 35,43 | 5,45 | 8,58 | 149,56 |
| УСЯГО . | 14,89 | 7,69 | 2,65 | 477,81 | 38,17 | 170,52 | 12,92 | 129,43 | 71,50 | 22,76 | 925,68 |

Як бачым, значная плошча яшчэ зьяўляецца няўжыткоўнай (няўдобіца, хмызьнякі) альбо мала ўжыткоўнай (балотная сенажаць, яшчэ не асушаная).

З 1924 г. у саўгасе ў палявой гаспадарцы ўжываецца дзевяцiпольны севазворот; 1) жыта азімае, 2) бульба, 3) ярына + канюшына, 4) канюшына (1 г.),, 5) канюшына (2 г.), 6) канюшына (3 г.), 7) азімае жыта, 8) ярына і 9) папар.

Досыць характэрным зьяўляецца хістаньне ўраджайнасьці розных культур па гадох у залежнасьці ад якасьці глебы і ступені яе ўгноенасьці; пясчаная і высіленая глеба давала часамі зусім нізкія ўраджаі, як гэта відаць з ніжэйпаданай табліцы:

| Ураджайнасьць з гектару ў пуд. / Назва культур | 1924 г. П. | 1924 г. Ф. | 1925 г. П. | 1925 г. Ф. | 1926 г. П. | 1926 г. Ф. | 1927 г. П. | 1927 г. Ф. | 1928 г. *) П. | 1928 г. *) Ф. | Сярэдні за 5 год. П. | Сярэдні за 5 год. Ф. |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Жыта . . . | 53 | — | 69 | 28 | 41 | 12 | 48 | 29 | 38 | — | 52 | — |
| Авёс . . . . | 54 | 36 | 47 | 20 | 25 | 2 | 33 | 7 | 42 | 38 | 40 | 24 |
| Бульба . . . | 420 | — | 293 | 31 | 630 | 30 | 555 | — | 372 | — | 454 | — |
| Канюшына (насеньне) | 6 | — | 1 | 13 | 1 | 16 | 5 | 7 | 4 | 24 | 3 | 28 |
| Канюшына (сена) . | 303 | 28 | 132 | 16 | 49 | 20 | 61 | — | 90 | 28 | 126 | — |
| Сена лугавое . . | 30 | 14 | 92 | 23 | 144 | — | 128 | 13 | 86 | 16 | 96 | — |
| Караньплоды . . | — | — | — | — | 506 | — | — | — | 851 | — | 678 | — |
| Сэрадэля . . . | — | — | 28 | — | — | — | 13 | 8 | 7 | — | 16 | 3 |

Саўгас яшчэ, як відаць, ня можа пахваліцца сыстэматычным павялічэньнем ураджайнасьці ў параўнаньні з сярэднімі сялянскімі ўраджаямі (жыта 42—45 пуд. і авёс 40—42 пуд.), але ва ўсёй сыстэме гаспадаркі адчуваецца пэўнае ўзмацненьне ў сувязі з палепшаньнем жывёлагадоўлі і лепшай арганізацыяй працы.

*) У саўгасе сеюцца: жыта—„петкускае“, авёс—„залаты дождж“, бульба—„Вольтман“.

У мінулым 1928 г. саўгас здаў па нараду:

| | | |
|---|---|---|
| Бягомльскаму крэдытнаму таварыству . . | 16.380 кгр. | жыта |
| Хлебсаюзу . . . . . . . . . . . . . . . | 9 828 „ | „ |
| На Бярэзінскі броварны завод . . . . . | 73.710 „ | бульбы. |
| Вайсковым часьцям у час манэўраў . . . | 16.380 „ | сена |

і абменена 21.312 кгр. аўса мясцоваму насельніцтву.

Прадукты гародніны (капуста, буракі, морква і інш.) збываліся ў Барысаўскі ЦРК (на сумму 10.000 руб.). У гэтым годзе закантрактаваны ўраджай капусты, бульбы, морквы, сталовых буракоў і гуркоў. Што да садоўніцтва, дык яно прамысловага значэньня ня мае і задавальняе толькі запатрабаваньні саўгасу.

У апошнія два гады зьвернута вялікая ўвага на апрацоўку глебы і ўгнаеньне. У гэтым годзе пад лубін засеяна 30,25 гект.; атрымана і ўнесена штучнага ўгнаеньня:

| | |
|---|---|
| Суперфосфату . . . . | 2.170 кгр. |
| Касьцяной мукі . . . | 12.500 „ |
| Попелу . . . . . . . | 3.276 „ |
| Фасфарытнай мукі . . | 16.500 „ |
| Сульфат-амонія . . . . | 1.000 „ |

Штучнае і зялёнае ўгнаеньне ў гаспадарцы саўгасу набывае асабліва вялікае значэньне ў сувязі з недахопам натуральнага ўгнаеньня за адсутнасьцю саломы для подсьцілу.

Апрацоўка зямлі значна палепшылася з набыцьцём трактару і павялічэньнем ліку рабочых коняй (35 у Палялюме і 7 у Слабодцы).

Сельска-гаспадарчым інвэнтаром саўгас забясьпечан. У сучасны момант у саўгасе ёсьць такі інвэнтар:

| | | | |
|---|---|---|---|
| трактар . . . . . . . | 1 | трыер . . . . . . . . | 1 |
| плугоў . . . . . . . | 39 | барон зыг-заг . . . . | 33 |
| дыскавая барана . . . | 1 | „ спружыновых . | 8 |
| сеялак радавых . . . | 1 | „ іншых сыстэм . | 12 |
| „ рассыпных . . | 2 | акучнікаў . . . . . . | 11 |
| „ дыскавых . . | 1 | грабель конных . . . | 2 |
| жняярак . . . . . . . | 4 | бульбакапацеляў . . . | 2 |
| касілак . . . . . . . | 3 | ільнятрапалак . . . . | 1 |
| веялак і сартовак . . | 5 | кораньрэзак . . . . . | 1 |
| малатарань (розных) . | 3 | саламарэзак . . . . . | 2 і інш. |

Частка машын ужо папсавалася і патрабуе рамонту. З-за нядбайнасьці і непадрыхтаванасьці памоцніка машыніста-трактарыста вясной гэтага году папсаваны трактар і зараз знаходзіцца ў рамонце (у Менску). У даным выпадку яшчэ лішні раз падкрэсьліваецца неабходнасьць падрыхтоўкі тэхнічных кадраў у буйныя савецкія і колектыўныя гаспадаркі.

Разьвіцьцё жывёлагадоўлі характарызуецца наступнай табліцай (на 1 студзеня кожнага году):

| НАЗВА ЖЫВЁЛЫ | 1924 г. | 1925 г. | 1926 г. | 1927 г. | 1928 г. | 1929 г. | Увага |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Коні (рабочыя) . . | 5 | 14 | 26 | 22 | 25 | 35+7 | 7 коняй атрымана з б. калёніі ў Слабодцы. |
| Жарабкі . . . | 1 | 2 | 1 | — | — | (?) | |
| Конскага маладняка . | — | 6 | 11 | 13 | 11 | 5 | |
| Кароў . . . | 3 | 14 | 11 | 15 | 24 | 67 | |
| Рагатага маладняка . | 1 | 15 | 11 | 8 | 13 | 38 | |
| Валоў (рабочых) . . | 22 | 23 | 21 | — | — | — | Пасьля набыцьця трактару валы, як рабочая сіла, ня ўжываюцца. |
| Быкоў-вытворнікаў . | — | — | 1 | 1 | 2 | 4 | |
| Авечак . . . | 5 | — | — | — | — | — | |
| Сьвіней . . . | 3 | 9 | 6 | 5 | 2 | 4 | |
| Парасят . . . | 5 | 9 | 3 | — | 3 | — | |
| Кныроў-вытворнікаў . | — | — | — | — | — | 3 | |

Саўгас яшчэ ня ўзяў пэўнага кірунку на тыя або іншыя пароды жывёл. Так, каровы ў саўгасе мяшанай пароды, быкі-вытворнікі семэнтальскай і яраслаўскай пароды; коні—палепшанай мясцовай пароды, сьвіньні—ёркшырскай пароды.

Калі саўгас узяў ужо пэўны кірунак на павялічэньне і палепшаньне рагатае жывёлы, а таксама і коні, дык гэтага нельга сказаць адносна сьвіней, а між іншым саўгас мае ўсе магчымасьці для разьвіцьця сьвінагадоўлі. Гэта было-б карысна для падняцьця гаспадаркі, а таксама гэта патрэбна было-б і для разьвіцьця сьвінагадоўлі ў ваколічных вёсках.

Сярэдні гадавы ўдой каровы ў 1927 г. быў каля 1.350 кгр., а ў 1928 г.—каля 16.300 кгр. Малако на месцы перапрацоўваецца ў масла, якое збываецца ў Барысаўскі ЦРК.

Прамысловымі прадпрыемствамі саўгасу зьяўляюцца: вадзяны млын у в. Гара, паравы ў саўгасе Палялюм і тут-жа сукнавальня, цыркулярка; вадзяны млын і лесапільная рама ў Слабодцы, маслабойня ў Палялюме. За 1927 г. млыны ў Палялюме і в. Гара перамалолі 1.117 тон зерня. Усе прадпрыемствы ў 1928 г. былі прыбыткоўны для саўгасу за выключэньнем млыну ў Палялюме.

Асноўны капітал саўгасу ровен 72.884 р. 24 кап., запазычанасьць (Белсельтрэсту) на 1/IV—36.133 руб. 26 кап.

Рабочых у саўгасе налічваецца 40 чал. (37 мужч. і 3 жанч.) штатных і 28 сэзонных (14 мужч. і 14 жанч.). Зарплату штатныя рабочыя атрымліваюць па 3-х катэгорыях: па першай—35 руб. 70 кап. у месяц, па другой—31 руб. 45 кап. і па трэцяй—26 руб. 35 кап.*). Хлеб і прадукты сельскай гаспадаркі (бульбу, гародніну) рабочыя атрымоўваюць па цьвёрдых цэнах. Амаль усе сем'і рабочых маюць невялічкія

*) Сэзонныя жанчыны-работніцы атрымоўваюць 21—25 руб. у месяц.

гародчыкі (каля 150 кв. саж.), сьвіней. Кожны штатны рабочы мае права на 1 падводу ў г. Барысаў. Матар'яльнае становішча рабочых неаднолькавае: сем'і, дзе ёсьць 2—3, а то і 3—4 рабочых, жывуць досыць добра, тыя-ж сем'і, дзе ядакоў шмат, а рабочых 1—2, жывуць значна горш. Гэта неаднолькавасьць у матар'яльным становішчы сем'яў рабочых выклікае часамі непажаданыя сваркі паміж жанчынамі (пераважна).

Жывуць рабочыя ў пабудаваных да рэвалюцыі хатах для батракоў. Хатнія ўмовы патрабуюць значнага палепшаньня: пашырэньня жылой і сьветлавой плошчы, забясьпечаньня лепшым абсталяваньнем і інш.[1]). Кожная сям'я вядзе сваю асобную гаспадарку, мае сваю асобную кухню (печ). Хатняя праца (асабліва зімой) у сем'ях так-жа неарганізавана, як і ў вёсках і калгасах. Белселькустпромсаюзу трэба зьвярнуць сур'ёзную ўвагу на арганізацыю хатняе працы, на арганізацыю кустарных промыслаў і на іх пашырэньне, што прадбачана і ў пяцігадовым пляне.

Адносіны рабочых да працы ў саўгасе, да дзяржаўнай маемасьці за апошнія 3 гады значна палепшыліся. Ад сялян суседніх вёсак прышлося чуць такія заўвагі: „Рабочыя працуюць сумленна... Скаціну даглядаюць як гаспадары, ня то, што было калісь раней...". Тое-ж, прыблізна, падцьвердзілі загадчык саўгасу і старшыня рабачкому. Працоўная дысцыпліна значна паднялася. Рабочыя самі і рабочком вядуць барацьбу з прагуламі, з нядбайнымі адносінамі да працы.

Досыць актыўны ўдзел прымаюць рабочыя ў вытворчых нарадах. На аднэй з такіх нарад, калі абгаварвалася пытаньне аб сацыялістычным спаборніцтве саўгасу, мне давялося быць. Абгаварвалі па-дзелавому, дружна ўсёй сям'ёй рабачкам, рабочыя, загадчык саўгасу. Крытыкавалі Белсельтрэст, які да гэтага часу ня даў пэрспэкцыйнага пяцігадовага пляну, без чаго цяжка арыентавацца і пры складаньні пляну разьвіцьця паасобных гаспадарак[2]); усебакова абгаварвалі, па некалькі разоў прымервалі, на колькі можна будзе павялічыць ураджай розных культур.

У выніку абгаварэньня была заключана з Бярэзінскім саўгасам умова аб сацыялістычным спаборніцтве: на працягу пяці год павялічыць ураджай жыта на 55 проц., аўса—на 75 проц., канюшыны (сена на 35 проц. і насеньня на 100 проц.), бульбы—на 80 проц., сенажацяй—на 15 проц., кораньплодаў—на 150 проц., сэрадэлі—на 50 проц.; працоўную дысцыпліну павялічыць да 100 проц. (дасягнуць максымальнай прадукцыйнасьці працы); колькасьць жывёлы павялічыць да 200 штук (цяпер 115), пашырыць плошчу пад хмелем з 5,5 гект. да 10, на працягу 2-х год ліквідаваць няпісьменнасьць сярод дарослага насельніцтва (да 45 год).

Тая сур'ёзнасьць, з якой абгаварвалася пытаньне сацыялістычнага спаборніцтва, і дасягненьні апошніх двух год зьяўляюцца да пэўнай меры гарантыяй таго, што задачы, пастаўленыя ў парадку сацыялістычнага спаборніцтва, рабочымі саўгасу будуць выкананы.

---

[1]) У пэрспэктыве ў бліжэйшыя пяць год маецца на ўвазе пабудаваць адзін спэцыяльны дом для кватэр рабочых.

[2]) А прадстаўнік Белсельтрэсту, калі я сказаў яму аб гэтым, заўважыў: „Мала бываюць у Менску. Там пяцігадовы плян ёсьць". Выходзіць, што ўсе саўгасы павінны пасылаць спэцыяльна людзей у Менск знаёміцца з пяцігадовым плянам. А ці ня трэба гэты плян, аб якім на мясцох ня ведаюць (ня толькі ў Палялюмскім саўгасе), разаслаць на месцы ды папулярызаваць яго шырэй сярод рабочых саўгасаў?! Відаць, і Белсельтрэст яшчэ не пазбавіўся бюракратызму.

Усе штатныя рабочыя саўгасу зьяўляюцца членамі саюзу Рабземлесу. Членаў партыі 2 і 2 кандыдаты; у ячэйцы ЛКСМБ—10 ч. У саўгасе праз усю зіму працаваў прафгурток, які наведвалі ўсе рабочыя. У гуртку вывучаўся кодэкс законаў аб працы, устаў саюзу, колдагавор і інш., у палітгуртку (35 чал.) абгаварваліся пытаньні бягучай палітыкі, пастановы VI кангрэсу Камінтэрну, 16 партканфэрэнцыі УсеКП(б) і 12 зьезду КПБ(б); драмгурток рыхтаваў пастаноўкі і ставіў спэктаклі ў дні рэволюцыйных сьвят; на жаль, слаба працаваў сельска-гаспадарчы гурток. Рабочых вельмі цікавілі кінопастаноўкі (кінопerасоўка працавала раз у месяц). Паступова разгортвае сваю працу ячэйка бязбожнікаў. Рэлігійныя абрады ў саўгасе зжываюцца канчаткова; нараджэньні, шлюбы і інш. моманты ў жыцьці рабочых абыходзяцца без папа.

У саўгасе ёсьць сеткавая школа, у якой вучылі 40 вучняў (дзяцей рабочых 25 і 15 дзяцей з бліжэйшых вёсак); працавала вячэрняя школа для дарослых (24 чал.). Няпісьменных у саўгасе (да саракагадовага ўзросту) налічваецца 10 чал. (прыбыўшых з вёсак батракоў). Ёсьць у саўгасе і бібліятэка ў колькасьці 500 экзэмпляраў кніг (бэлетрыстыка літаратура па палітычных і прафэсійных пытаньнях і па сельскай гаспадарцы); чытаецца пераважна навейшая мастацкая літаратура на расійскай і беларускай мовах.

Саўгас у гэтым годзе правёў наступную працу сярод мясцовага насельніцтва (да гэтага году праца была вельмі слаба арганізавана): ачышчана 77 тон насеньня для сялян, аказана дапамога бядняцкім гаспадаркам у вясеньнюю пасяўную кампанію (30 конедзён); прыпушчана да вытворнікаў: 4 кабылы, 32 каровы, 16 сьвіней бядняцкіх і серадняцкіх гаспадарак; у кузьні адрамантавана 14 плугоў, 1 барана і 8 калёс. Апрача таго, сувязь саўгасу з ваколічнымі вёскамі падтрымлівалася яшчэ тым, што ў вёсках праводзіліся сходы, гутаркі аб палепшаньні сельскай гаспадаркі і павялічэньні ўраджайнасьці.

У далейшым саўгас павінен: 1) перайсьці на пэўную плянавую працу ў разьвіцьці гаспадаркі; 2) паставіць на належную вышыню жывёлагадоўлю, арганізаваць малочную гаспадарку з апрацоўкай прадуктаў на месцы, разьвіць сьвінагадоўлю; 3) дабіцца павялічэньня ўраджайнасьці зернавых культур і бульбы і пабудаваць на месцы крухмальны завод; 4) павялічыць ужываньне больш складаных машын і палепшыць апрацоўку і ўгнаеньне глебы; 5) пабудаваць больш адпаведныя жылыя будынкі для рабочых, хлявы для скаціны і сьвіран для захаваньня збожжа, у чым адчуваецца вострая патрэбнасьць; 6) палепшыць культурнае абслугоўваньне рабочых, зьліквідаваць няпісьменнасьць і дабіцца павялічэньня тэхнічных сельска-гаспадарчых ведаў у рабочых; 7) пашырыць і паглыбіць сувязь з насельніцтвам ваколічных вёсак, узяўшы пэўны кірунак на павялічэньне продукцыйнасьці сялянскай гаспадаркі, на каляктывізацыю індывідуальных сялянскіх гаспадарак, скарыстоўваючы для гэтых мэт машыны саўгасу (трактар, трыер і інш.). Часткова гэтыя задачы ўвайшлі ў плян сацыялістычнага спаборніцтва саўгасу. З боку Белсельтрэсту патрэбна належная агранамічная дапамога і кіраўніцтва саўгасам, а не выпадковыя наезды і агляды саўгасу для справаздач у цэнтры.

В. Самцэвіч.

# ПРАЦА І ЖЫЦЬЦЁ У КАЛГАСАХ

## Буйнейшы калгас Беларусі.

*(„Камунар Магілеўшчыны“, Клімавіцкага раёну).*

### Першыя крокі.

Пытаньне аб арганізацыі калгасу ў вёсцы *Савінічы* (Клімавіцкага раёну, Магілеўскай акругі) было ўзьнята яшчэ ў мінулым годзе. Аднак—актыў быў вельмі малы, а мясцовая партыйная ячэйка спачатку амаль не зьвяртала ўвагі на гэтае пытаньне. Толькі ўвесну гэтага 1929 году, з прыходам новага сакратара ячэйкі т. Фядосенка,—пытаньне аб арганізацыі калгасу было пастаўлена са ўсёй рашучасьцю і навокал яго згуртаваўся ўвесь актыў вёскі Савінічы.

У чэрвені месяцы быў арганізован калгас у складзе 40 гаспадарак.

Трэба адзначыць, што Савініцкі сельсавет зьяўляўся адным з адсталых у раёне, з слабой пастаноўкай культурнай працы. Толькі летам б. г. у Савінічах была адчынена хата-чытальня.

Пры арганізацыі калгасу сельскай парт'ячэйкай была праведзена вялікая падрыхтоўчая работа сярод бедняты і жанчын.

Вядома, што кулацтва было супроць новага калгасу. Яны ня толькі вялі агітацыйную працу сярод найбольш адсталай часткі насельніцтва, ня толькі ашуквалі сялян хлусьнёй і пагрозамі, але прымалі і больш рашучыя меры—калечылі жывёлу актывістых калгасьнікаў (выбілі вока каню, пабілі карову да крывавай мачы і г. д.).

Ня менш варожыя адносіны да калгасу былі і з боку рэлігійнага культу, служкі якога арганізавалі цэлы супроцькалгасны агітпроп. „Бальшавікі—антыхрысты, яны прысланы для саблазну людзей... Яны згінуць праз год; хто ідзе ў калгас—той прадае хрыста і г. д.“,—вось як апрацоўвалі царкоўнікі цёмных людзей.

Аднак, калі калгасны рух у Савінічах ахапіў усю вёску, дык мясцовы поп, які асабліва варожа быў настроены супроць калгасу, накіраваўся ў партыйную ячэйку.—„Прымайце і мяне ў калгас“—казаў ён... „я зьніму свой духоўны сан...“ Дзваны з царквы мы заберамо для патрэб гаспадаркі калгасу...“ Вядома—які адказ атрымаў поп ад ячэйкі.

Ня гледзячы на ўсе выбрыкі кулацтва і іншых ворагаў калгаснага руху—беднята і серадпякі моцна трымаліся.

### Далейшы ўзрост.

Калі пачалася васеньняя пасеўная кампанія, беднята—як адзін—выехала на ворыва з чырвонымі штандарамі, са сьпевамі. Кулакі глядзелі з-пад затыньня і сьмяяліся з „дурняў“...

Але прайшоў час і яны пачалі прасіцца, каб іх прынялі ў калгас.

Члены калгасу працавалі з энтузыязмам, на што зьвяртала вялікую ўвагу акаляючае насельніцтва.

Адначасова—калгасам праводзілася вялікая падрыхтоўчая праца сярод навакольных вёсак—растлумачвалася палітыка партыі і савецкай улады па пытаньням калгаснага будаўніцтва.

Спачатку быў вылучаны сельскі актыў у 30 асоб, які поўнасьцю запісаўся ў калгас і аказваў дапамогу партыйнай ячэйцы ў справе каляктывізацыі вёскі. Вядома, што ўсьлед за актывам падцягнулася і ўся вясковая бядняцка-серадняцкая маса.

Значную дапамогу Савініцкай партыйнай ячэйцы, як у сэнсе дырэктыўных паказаньняў, так і ў іншых адносінах, аказваў Клімавіцкі Райком. Сакратар райкому тав. Соскін—сам выяжджаў у Савінічы для правядзеньня работы.

У далейшым вакольныя вёскі Савініцкага сельсавету адна за другой пачалі ўлівацца ў калгас, які насіў прозьвішча „Чырвоны луч". На другі-ж дзень пасьля афармленьня ў калгас, вёска каляктыўна выяжджала на возку гною і на ворыва.

Пасуседзтву з калгасам „Чырвоны луч" у вёсцы Восава быў зорганізаваны самастойны калгас „Чырвоны пуцілавец". У жніўні месяцы гэтыя два калгасы зьліліся ў адзін калгас-гігант „Камунар Магілеўшчыны", у якім зараз налічваецца 6 вёсак з плошчай звыш 4000 гект.

Маюцца шырокія пэрспэктывы да каляктывізацыі ўсяго Савініцкага сельсавету на 100 проц. з тым, каб рэшта вёсак сельсавету ўлілася ў „Камунар Магілеўшчыны". Трэба адзначыць, што ўжо зараз калгас аб'яднае да 75 проц. усёй зямельнай плошчы сельсавету.

Прымаючы пад увагу вялікі напор у калгас з боку насельніцтва—прыходзілася мясцовым органам нават некалькі затрымліваць тэмп каляктывізацыі, бо да апошняга часу ня было магчымасьці даць калгасу неабходную агранамічную, тэхнічную і арганізацыйную дапамогу.

## Што перашкаджала.

Атсутнасьць трактароў у такім буйным калгасе значна затрымала ход васеньняга севу, стварыўшы вялікую напружанасьць у рабоце, прымаючы пад увагу тое, што калгасьнікам прыходзілася адначасова ўдзельнічаць у работах па правядзеньню земляўпарадкаваньня, уборцы ўраджаю сваёй індывідуальнай гаспадаркі і ў каляктыўным засеве зімовага кліну.

Адсутнасьць арганізацыйнай дапамогі затрымлівала ўнутранае афармленьне калгасу, складаньне пляну ўнутранага распарадку, распляніроўку сядзіб, пабудову гаспадарчых будынкаў, устаноўку севазвароту і наогул пабудову пляну арганізацыі ўсёй гаспадаркі калгасу. Апроч таго, значныя цяжкасьці стварыліся і ў сувязі з тым, што калгас перажывае рэарганізацыйны пэрыяд, паколькі, як ужо адзначана, членам калгасу прыходзіцца карыстацца індывідуальнымі засевамі, сваімі гаспадаркамі пры правядзеньні абагуленых засеваў і пераходу да абагуленьня асобных сродкаў вытворчасьці (коні, сельск.-гасп. інвэнтар і г. д.).

## Арганізацыйная структура.

Арганізацыйная структура калгасу „Камунар Магілеўшчыны"—наступная: гаспадар калгасу—агульны сход, пастановы якога выконваюцца праўленьнем—37 асоб і правяраюцца кантрольным саветам,—5 асоб (рэвізійнай камісіяй). Уся гаспадарка калгасу разьбіта на „аддзяленьні"—альбо фэрмы (падсобныя гаспадаркі), якія складаюцца з былых вёсак, якія ўвайшлі ў калгас. У калгасе маюцца наступныя

аддзяленьні: 1) Восава, 2) Студзенец, 3) Александраўка з вакольнымі пасёлкамі, 4) Савінічы і інш.

У кожным аддзяленьні маецца па 1 члену праўленьня калгасу ў якасьці палявода, які кіруе 3—4 брыгадзірамі (старшымі рабочымі). Брыгадзіры кіруюць сваімі брыгадамі, якія складаюцца з 20—25 двароў калгасьнікаў.

Настроі як у самым калгасе, так і зацікаўленасьць ім з боку акаляючага насельніцтва з кожным днём павялічваюцца. Будаўніцтва буйнага калгасу захоплівае сваімі магутнымі хвалямі сотні сялянскіх гаспадарак. Зьлейшыя „нехацімцы“ з беднаты і серадшякоў, уваходзячы ў калгас, у хуткім часе робяцца лепшымі калгасьнікамі.

Гэткае перараджэньне прыходзіла пасьля таго, як гаспадар уліваў сваю маемасьць у агульны кацёл і пазбаўляўся індывідуальных настрояў.

## Індустрыялізацыя калгасу.

Зараз у калгасе „Камунар Магілеўшчыны“ ёсьць паравы млын з моцным 60-сільным рухавіком. Млын пераабсталёўваецца—у ім устанаўліваецца другі пастаў і пярлоўка. У цэнтры калгасу—Савінічах арганізаваны лекавы пункт. Калгасам для гэтай мэты закуплены і перавезены будынак. У калгасе ёсьць 2-камплектная школа навейшага тыпу. Неабходна гэту школу рэарганізаваць у сямёхгодку, так як бліжэй, чым за 20 вёрст, ад калгасу сямёхгодкі нідзе няма.

У хуткім часе мяркуецца арганізаваць у калгасе шэраг саматужных прадпрыемстваў—калёснае, бондарнае, шорнае і інш., асабліва, прымаючы пад увагу налічча ў калгасе значнай колькасьці сяброў—спэцыялістых па гэтым прадпрыемствам.

Калгас трэба паступова абсталёўваць рознымі тэхнічнымі прадпрыемствамі. Праз які-небудзь год у калгасе будзе каля 500.000 пуд. таварных лішкаў бульбы, якую трэба перапрацаваць у самой гаспадарцы калгасу. Для гэтага трэба там пабудаваць буйны крухмальны завод.

Жывёлагадоўля ў калгасе хутка прыме вялізарны разьмер: лік кароў павінен дайсьці да 1000 галоў. Гэта выклікае неабходнасьць перапрацоўкі малака і пабудовы масла-сырзаводу.

Грандыёзнае будаўніцтва шэрагу буйных гаспадарчых і грамадзкіх будынкаў патрабуе загатоўкі мільённай колькасьці цэглы, дзесяткаў тысяч кубамэтраў лесаматар'ялаў, што высоўвае неабходнасьць пабудовы ў калгасе лесапілкі і заводу па выпрацоўцы цэглы.

## Больш увагі калгасу.

Калгасу зараз-жа трэба мець свае агранамічныя і тэхнічныя сілы. Ён патрабуе да сябе асаблівай увагі і дапамогі.

Неабходна тэлефонізаваць калгас, у які ў хуткім часе ўвальлецца ўвесь Савініцкі сельсавет. Неабходная рабочая сіла і лесаматар'ял для сталбоў знойдуцца. Галоўныя выдаткі—гэта набыць 5 тэлефонных апаратаў.

Тэлефонная магістраль—Брацькавічы—Магілеў зусім недалёка—у адлегласьці каля 7 вёрст.

У дзень Калякытывізацыі (28 жніўня) калгас „Камунар Магілеўшчыны“ арганізаваў вялікі чырвоны абоз і здаў у Клімавічы 500 пудоў хлеба.

Зараз у Клімавіцкі раён, а таксама і ў гэты калгас накіраваны інструктар Белкалгассаюзу, які вывучае становішча калгасу і дапаможа ў складаньні арганізацыйнага пляну гаспадаркі.

Увесну мяркуецца ў гэты раён даць трактарную калёну ў 40 трактараў, якія будуць абслугоўваць, у першую чаргу, буйнейшы калгас Беларусі. Таксама да гэтага калгасу будзе прымацаваны сталы аграном.

Мы лічым, што праз некалькі год „Камунар Магілеўшчыны“ стане аднэй з сапраўных буйнейшых хлебных фабрык Беларусі.

**Калгасьнік.**

---

# Камуна Карла Лібкнэхта.

*(Быхаўскага раёну, Магілеўскай акругі).*

## 12 год таму назад.

Сярод палёў, лясоў і балот Быхаўшчыны знаходзіцца камуна імя Карла Лібкнэхта. За вярсту ад 14-га разьезду стаіць на ўзгорку 2-павярховы дом камуны, густа абсаджаны прыгожымі ліпамі... Пад узгоркам блішчыць рэчка Лахва, а за ёй—сумуе стары сасновы бор.

Некалі на гэтым месцы быў маёнтак „Сарочына“ багатых паноў Радкевічаў. Вакол маёнтку вялізарнымі прасторамі распрасьцёрліся панскія палі, лясы і сенажаці. Сотні батракоў і беднаты апрацоўвалі панскія нівы. Панская броварня забясьпечвала гарэлкай амаль палову сялян Быхаўскага павету. Побач маёнтку без перапынку гулі званы Баркалабаўскага манастыру. Так было да кастрычніка 1917 году, калі ў агні навальніц вялікай рэвалюцыі згінуў абшарнік Радкэвіч і манастырскія званы.

## Расток сацыялізму.

У цяжкіх умовах рэвалюцыйнай барацьбы на ўсіх фронтах, у момант барацьбы вясковай беднаты з кулацтвам, у голадзе і холадзе зарганізавалася камуна імя К. Лібкнэхта. Яна паклала пачатак сацыялістычнага будаўніцтва, на калектыўных падставах, на вёсцы. Кулацтва і контррэвалюцыйныя сілы імкнуліся зьнішчыць камуну. Так, у 1919 г., пры наступленьні палякаў, калі камуне прышлося эвакуавацца, кулацтва накіравалася на падводах рабаваць набытае ўпартай працай дабро камуны.

Камуна атрымала 160 *га* пахаці, 45 *га* заліўной сенажаці, 25 *га* сенажаці забалочанай і 8 *га* саду. Шэраг атрыманых будынкаў—быў без дзьвярэй, вакон, варот... Дахі былі старыя, зусім згніўшыя. Наогул, усе будынкі былі амаль ня прыгоднымі для жыцьця. Іншай маемасьці, напрыклад: сел.-гас. інвэнтар, жывёла, транспарт і г. д.—ня было нічога. Спачатку камуне было вельмі цяжка гаспадарыць: камунары часта галадалі... Усюды былі недахопы—сродкаў ня было ніякіх. Але камуна напружвае ўсе свае сілы і хутка расьце. Камунары сваімі сіламі аднаўляюць сабраны па частках стары рухавік і вось—улетку, у старым панскім сьпірытусавым складзе. быў пабудаваны паравы млын і ў камуну пацягнуліся сялянскія падводы з хлебам.

### Варожая помста.

Жывёла камунараў была простая, малапрадукцыйная. Але ў хуткім часе камунары зьмянілі сваіх простых „цялушак“ на добрых, пародзістых кароў-галяндак, якія меліся пры праходзіўшых вайсковых частках.

У красавіку 1924 году гаспадарка камуны атрымала цяжкі ўдар: ворагі калгаснага руху падпалілі хлявы з жывёлай і ў вагні загінула 70 чыстакроўных кароў-галяндак, 3 вытворнікі, 140 галоў авечак, 40 сьвіней і парасят. Таксама загінуў і птушыны двор камуны са ўсёй птушкай.

Кулацтва сьвяткавала перамогу: яно лічыла, што камуна ня здолее перанесьці такога ўдару.

Але гэтае злачынства не зламала энэргію камунараў. Яны яшчэ больш зьядналіся вакол упартае дзелавое працы па пабудове гаспадаркі камуны і яе грамадзкага жыцьця. Камуна атрымлівае крэдыт, будуе 2 аборы для жывёлы, купляе 50 кароў, будуе крухмальны завод. Атрыманыя камунай раны паступова залечваюцца.

Тады разьюшаныя ворагі ставяць мэтай тэрарызаваць камунараў: восеньню 1924 году робіцца два новых падпалы і ў агні гіне звыш 2000 пудоў сена-канюшыны камуны. Аднак,—камунары не спалохаліся.

Ужо ў 1925 годзе камуна за ўласныя сродкі купляе трактар, машынізуе сваю гаспадарку, узмацняе яе. Камуна выбівае з рук нэпманаў вадзяны млын, атрымлівае яго ў арэнду; сканцэнтраваўшы ў сваіх руках значную колькасьць хлеба—камуна аказвае вялікі ўплыў на мясцовы рынак, садзейнічаньне зьніжэньню цэн на хлеб.

### Адна з лепшых у БССР.

Зараз камуна імя К. Лібкнэхта зьяўляецца адным з мацнейшых калгасаў Беларусі. Тое, што камуна ўжо існуе звыш 10 год—зьяўляецца вялікім паказчыкам жыцьцёвасьці камуны.

Як у адносінах арганізацыі гаспадаркі, так і арганізацыі ўнутранага парадку—камуна мае вялікія дасягненьні, асабліва з боку індустрыялізацыі гаспадаркі, арганізацыі працы і яе аплаты.

Камуна імя К. Лібкнэхта зьяўляецца першым у БССР калгасам, у якім зьдзельшчына ўжываецца з пачатку 1924 году. Вядома, што адначасова са значнымі дасягненьнямі ў камуне ёсьць цэлы шэраг розных недахопаў і памылак. Аднак, гаспадарка камуны і зараз можа быць добрым прыкладам для шмат соцен калгасаў Беларусі. Як недахопы, так і дасягненьні камуны—зьяўляюцца недахопамі і дасягненьнямі нашага калгаснага руху на працягу 10 год. Вопыт камуны, таксама як вопыт калгасаў іншых раёнаў СССР, паказаў, што *зьдзельшчына зьяўляецца моцным сродкам для падвышэньня вытворчасьці працы.*

Зараз камуна мае цэлы шэраг складаных с.-г. машын: 3 трактары, 3 жняяркі, 4 сенакасілкі, 5 конных грабляў, 2 складаныя малатаркі „Рустон“, 3 сеялкі, 3 сартавальныя машыны, карнярэзку, макухадрабілку, сэпаратар, маслабойку і г. д., усяго на 8804 руб. Амаль уся работа ў камуне машынізавана; машыны ня толькі палягчаюць працу камунараў і садзейнічаюць палепшаньню гаспадаркі, яны зьяўляюцца добрымі агітатарамі калектывізацыі сярод навакольнага насельніцтва.

Камуна мае шматпалёвы севазварот, ужывае палепшаную апрацоўку глебы, добра яе ўгнойвае гноем і мінэральнымі ўгнаеньнямі. Вось

чаму камуна атрымлівае добрыя ўраджаі, зьніжаючы кожны год сабекошт асноўных культур. Так, напрыклад, сабекошт 1 пуда жыта ў 1926 годзе быў 90 кап., а ў 1929 г.—80 кап.

### Жывёлагадоўля камуны.

Зараз у камуне ёсьць звыш сотні кароў і падцёлкаў. У мэтах палепшаньня якасьці кароў—праводзіцца кантроль над удойлівасьцю іх з выбракоўкаю малаўдойных кароў. Паступова каровы пераводзяцца з вясеньня-летніх ацёлаў на асеньня-зімовыя.

Зараз камуна мае 464 *га* с.-г. зямельнай плошчы, што пры 22 конях і 3-х трактарах гаспадарцы зусім дастаткова. Коні камуны нават ня маюць поўнае нагрузкі.



Стада завадзкіх авечак у камуне Карла Лібкнэхта.

Камунай пабудованы культурны сьвінарнік з кармушкамі, цэмэнтным полам, канаўкамі для сьцёку жыжы, з дворыкам для пагулянкі сьвіней. Сьвіньні—гатунковыя буйныя, белыя ангельскія, якія ў канцы першага году свайго жыцьця даюць 10 пудоў вагі. Зараз у камуне ёсьць 90 сьвіней, падсьвінкаў і парасят. У гэтым годзе камунай закантрактавана 40 падсьвінкаў на бэкон.

Акрза перадана камуне 18 авечак і 4 бараны аксфордшырдаўскай пароды для арганізацыі аўчарнага заводу. Зараз колькасьць авечак павялічылася да 64 галоў. Аксфордшырдаўцы зьяўляюцца добрымі мяса-шэрстнымі авечкамі і павінны адыграць значную ролю ў справе палепшаньня мясцовай беспароднай сялянскай авечкі.

Апроч таго, у камуне ёсьць пасека з 47 сямей пчол у добра абсталяваных вульлях Дадан-Блата. Пастаноўка пчалярнае гаспадаркі ў камуне, у параўнаньні з іншымі пасекамі Магілеўшчыны—больш правільная і мае ўсе падставы для свайго далейшага разьвіцьця.

## Тэхнічныя прадпрыемствы і культурна-бытавыя ўстановы камуны.

З тэхнічных прадпрыемстваў у камуне ёсьць уласны паравы млын, арандуецца вадзяны млын, маецца крухмальны завод, які дае камуне вялікую карысьць, цыркулярка, шэраг майстэрань (кузьня, сталярная) і вадаправод. У мінулым годзе на крухмальным заводзе было перапрацована 2052 тоны бульбы і атрымана звыш 27000 руб. прыбытку.

Цыркулярка дае магчымасьць камуне перапрацоўваць танны лясны матар'ял у больш каштоўныя вырабы, скарыстоўваючы розны бураломі, дравяны матар'ял і г. д.

На пабудову вадакачкі і вадаправоду камуна страціла 4.700 руб. Вадаправод абслугоўвае 2-х павярховы дом камуны, кухню, сталоўку, хлебапякарню, малочную, скотны двор, сьвінарню. Апроч таго ў двары камуны пастаўлена супроцьпажарная калёнка.



Пасека ў камуне Карла Лібкнэхта.

Агульная кухня, сталоўка і пякарня існуюць у камуне з моманту яе арганізацыі. Кухня загатаўляе штодзенна ў сярэднім 200 абедаў.

Сталовая з кухняй і хлебапякарняй зьяўляюцца буйным прадпрыемствам, маючым значны грашовы зварот: у мінулым годзе на кухню пайшло прадуктаў на 12.900 руб., а ў пякарню каля 2.000 пуд. мукі.

У камуне ёсьць аптэка па аказаньню першай дапамогі і фэльчар— член камуны. У камуне ажыцьцяўляецца гаспадарчае страхаваньне хворых камунараў.

З 1926 году ў камуне існуе дзіцячая пляцоўка з 23 дзяцьмі. Дзіцячыя яслі існуюць другі год. У ясьлях зараз ёсьць 30 дзяцей. Камуне трэба зараз-жа распрацаваць плян выхаваўчай і першапачаткова-дашкольнай вучэбнай працы з дзяцьмі і падшукаць належных кіраўнікоў гэтай справы.

Культасьветпраца ў камуне ня зусім здавальняючая. Няма плянавай працы і добрых кіраўнікоў. Між тым, камуна выпісвае шмат газэт, часопісаў, мае клюб са сцэнай, бібліатэку, чырвоны куток з радыёўстаноўкай, мае насьценгазэту, шэраг грамадзкіх гурткоў (драматыч-

ны, харавы, палітычны і інш.), мае ячэйкі Мопру, Асаавіахэму, Аўтадору. Амаль з першага часу існаваньня камуны—пры ёй маюцца партыйная і камсамольская ячэйкі.

За час свайго існаваньня камуна павялічыла свой асноўны капітал звыш, чым на 385 проц. (з 45.754 руб. да 176.509 руб.). Непадзельны капітал камуны, які зьяўляецца моцнай падставай для далейшага існаваньня камуны—складае звыш 155.000 руб.

Камуна ўдзельнічала на Ўсесаюзным конкурсе калгасаў, на якім атрымала дыплём 1-й ступені, як адна з лепшых камун ня толькі Беларусі, а і ўсяго Савецкага Саюзу.

С. К.

# Першы чырвонаармейскі калгас на Мар'інскім балоце.

*(Бабруйшчына).*

У маі месяцы гэтага году на Мар'інскім калфондзе, каля вёскі Кузьмічы, арганізаваўся першы на Беларусі Чырвонаармейскі калгас. Гэта—камуна імя Беларускае Ваеннае Акругі.



Першы чырвонаармейскі калгас на Мар'інскім балоце імя „БВА“.

Ужытныя для земляробства землі, якія ўвайшлі ў камуну, пакуль яшчэ знаходзяцца ў карыстаньні хутаран вёскі Кузьмічы. Гэтыя хутаране толькі з вясны 1930 году змогуць перасяляцца на адведзеныя ім пры земляўпарадкаваньні пасёлкі.

Першай прыбыла ў камуну рабочая дружына з 6 чырвонаармейцаў і 4 коняй. Камунары зараз-жа прыступілі да пабудовы новага жыцьця. На вучастку хутараніна Івана Міхаленкі яны знайшлі месца, на якім пабудавалі часовы барак. Гэты хутаранін, даволі моцны гаспадар, адразу вельмі коса паглядзеў на „няпрошаных“ гасьцей. Ён казаў: „пачакаю, яны ўсё роўна дадуць дзёру“. Але—так і не дачакаўся.

Кіраўніцтва калфонду адразу накіравала ў дапамогу камунарам-чырвонаармейцам трактарную калёну з 6 трактараў для таго, каб узараць пласт балотнай цаліны.

Чырвонаармейцы дружна карчавалі хмызьняк, а таксама падвозілі для трактароў гаручыя і шмаравальныя матар'ялы. Белкалгассаюз



Прыгатаваньне абеду ў чырвонаармейскам калгасе імя „БВА.“

тады-ж даручыў кіраўніцтву калфонду закупіць неабходны лесаматар'ял і пабудаваць камуне тры васьмікватэрныя дамы, канюшні, аборы і інш. гаспадарчыя будынкі. Неабходныя для будоўлі сродкі былі тэрмінова пераведзены кіраўніцтву калфонду.

У канцы ліпеня склад камуны папоўніўся, павялічыўшыся да 34 чырвонаармейцаў. Апрача таго, да іх далучылася 5 мужчын і 2 дзяўчыны з распаўшагася яўрэйскага калгасу, які раней існаваў па-суседзтву.

Гаспадарка чырвонаармейскай камуны паступова павялічвалася: камунары набывалі буйную рагатую і працоўную жывёлу.

Калі пачалася касавіца, камунары накасілі шмат сена на сваіх балотных лугох, а таксама 37 гект. віка-аўсянай мешанкі (у тым ліку 26 гект., якія былі куплены на корані ў саўгасе „імя Дзесяцігодзьдзя БССР“).

Будаўніцтва ў камуне з-за адсутнасьці плотнікаў вельмі затрымалася. Дзякуючы гэтаму камунарам прыходзіцца жыць амаль пад адкрытым небам. Аднак, камунары ніколі ня падаюць духам.

Зараз у камуне працуюць каля 50 плотнікаў, якія ўжо пабудавалі ўцеплены сарай для жывёлы і будуюць два дамы па 8 кватэр кожны. Ёсьць упэўненасьць, што да 15 лістапада будаўніцтва будзе скончана.

Камунары-чырвонаармейцы сваёй упартай працай і дружным жыцьцём заваявалі значны аўторытэт сярод акаляючага насельніцтва (хутаран). Зараз хутаране рэзка зьмянілі свае адносіны да камунараў і падтрымліваюць усе пачынаньні камуны. Шмат хутаран падалі заяву ў камуну аб тым, каб іх прынялі ў склад членаў калгасу. Той самы Міхаленка, які ў першы час ніяк ня мог дачакацца, калі чырвонаармейцы будуць уцякаць з яго зямлі, зараз зразумеў вялікую карысьць каляктывізацыі і таксама падаў заяву аб прыняцьці ў камуну.

Да сканчэньня пабудовы кватэр—камунары разьмясьціліся па дамох хутаран, якія дабраахвотна іх прынялі.

Камуна імя Беларускае Ваеннае Акругі зараз зьяўляецца адным з буйнейшых калгасаў Бабруйскае акругі і налічвае звыш 2.000 гектар. зямельных ужыткаў. Пройдзе 1—2 гады і камуна стане моцнай культурнай каляктыўнай гаспадаркай, якая ператворыць акаляючыя балоты ў багатыя нівы і сенажаці.

М. Іткін.

---

# Як жыве і працуе сельска-гаспадарчая арцель „Савецкая Беларусь“.

### Нараджэньне арцелі.

Сельска-гаспадарчая арцель імя газэты „Савецкая Беларусь“ (на Мазыршчыне) арганізавалася ўзімку 1929 г. пры дапамозе рэдакцыі газэты „Савецкая Беларусь“. У часе першай запісі ў арцель уступіла 16 гаспадароў, але 6 з іх перапалохаліся калгаснага жыцьця і вышлі да земляўпарадкаваньня арцелі. Рэшта 10 гаспадароў аказаліся цьвёрдымі да канца і сёньня будуюць каляктыўную гаспадарку.

Хто гэтыя 10 гаспадароў? Гэта тыя, каму хлеб даставаўся крывёю, гэта тыя, каго сталыпіншчына прымушала езьдзіць за 8 вёрст араць свой хутар—атруб ці вазіць туды без дарогі гной. Гэтыя 10 гаспадароў сказалі слова на першым сходзе, што яны будуць цьвёрдымі да канца і сваё слова стрымалі.

Зімовы пэрыяд сябры арцелі скарысталі на падрыхтоўку да калгаснага жыцьця, на падрыхтоўку да веснавой сяўбы.

Арцель арганізавалася на землях працоўнага карыстаньня калгасьнікаў, а калгасьнікі жылі хутарамі і атрубамі ў розных баках вёскі Гарочыцы. Ня гледзячы на раскіданасьць хутароў, сябры арцелі пастанавілі веснавы пасеў рабіць каляктыўна—перабіраючыся з хутара на хутар. Шмат патрачана часу было дарма на пераезды з аднаго хутара на другі, але сябры арцелі ня падалі духам, а працавалі як сьлед і ўся зямля была абсеяна поўнасьцю.

Пры дапамозе рэдакцыі газэты „Савецкая Беларусь“ арцель была дадаткова ўключана ў плян земляўпарадкаваньня і вясной земляўпарадкавана.

З той прычыны, што арцель арганізавалася пераважна з беднаты, спачатку адчуваліся ды і цяпер адчуваюцца цяжкасьці; трэба было купіць насеньня, сельска-гаспадарчыя машыны, рабочую жывёлу і іншае, а таксама трэба было перавозіць сяброў арцелі з хутароў і адбудоўваць ім памяшканьні на сядзібе арцелі.

На земляўпарадкаваньне арцелі патрачана больш ста рабочых чалавека-дзён.

Цяжка, надзвычайна цяжка было ў гэты час, але сябры арцелі вытрымалі. Земляўпарадкаваньне скончылася, падасьпела касьба і жніво



Жанчына-трактарысты ў калгасе.

і зноў прышлося вандраваць з аднаго хутара на другі. На працягу аднаго месяца ня было ніводнага дня адпачынку.

Папрацавалі парадкам і яшчэ хапае працы.

### Арцель за 5 месяцаў.

У сучасны момант арцель імя газэты „Савецкая Беларусь“ земляўпарадкавана. Арцель мае ў сваім карыстаньні 100 гектараў пахаці, 14—сядзібы і агароду, 56—сенажаці і 58—лесу мясцовага значэньня.

Арцель набыла за 5 месяцаў 4 параконных плугі, 1 культыватар, 1 дыскавую сеялку, адну сячкарню, 1 малатарню з прыводам, 1 быкавытворца, 1 карову і 5 штук рабочых коняй, і шмат дробязі. Праўда, арцель мае каля 2000 руб. доўгу, але доўг гэты трэба аплачваць на працягу некалькіх год і арцель яго, бязумоўна, аплоціць.

Арцель зьяўляецца сябрам сельска-гаспадарчай і спажывецкай каапэрацыі і агнятрывалага т-ва.

За 5 месяцаў арцель перавязла з хутароў дзьве хаты сяброў і пабудавала іх на сядзібе арцелі, акром таго адну хату памянялі, даплаціўшы 200 рублёў. Арцель перавезеныя дамы пакрыла чарапіцай, якую сама і зрабіла.

### Жывёла арцелі.

У дзень арганізацыі сябры арцелі мелі 17 кароў, а зараз маюць 18, коняй мелі 5, а зараз маюць 10.

Коні ў арцелі абагулены з першага дню, а каровы пакуль што знаходзяцца ў асабовым карыстаньні і тлумачыцца гэта тым, што сябры арцелі жылі на хутарох і проста нельга было абагуліць кароў, а падругое, што ня было агульнага хлява. Зараз ужо прыстасаваны адзін хлеў для коняй і прыступлена да пабудовы тыпавага хлява для кароў, так што і каровы хутка будуць абагулены.

Сьвіньні сяброў арцелі абагульвацца ня будуць, бо ўсе яны вельмі дрэннай якасьці, а ўзяты напрамак на гадоўлю пародзістых сьвіней і будуць заведзены арцельныя сьвіньні.

Авечак вырашылі ліквідаваць, а замест іх купіць племянных валоскіх авечак.

Арцель мяркуе на працягу 1929—30 году павялічыць лік кароў з 18 да 30 штук.

### Паляводзтва.

Як ужо было сказана вышэй, веснавы пасеў арцель рабіла каляктыўна і сродкамі арцелі. Збор ураджаю зроблены таксама каляктыўна і зьвезены ў адно месца. Ураджай азімага жыта і іншых культур, а таксама веснавое насеньне, быўшае ў сяброў арцелі на асабовым рахунку сяброў арцелі, не залічвалася на паасобных членаў, а зьявілася ўласнасьцю арцелі.

Зараз падрыхтоўваецца арцель да восеньняй сяўбы, ужо рыхтуецца глеба на адведзенай арцелі зямлі. Мяркуецца засеяць азімым жытам ня менш 23 гектараў. З тэй прычыны, што ў арцелі мала гною, мяркуецца пакласьці пад азіміну 144 пуды розных мінэральных угнаеньняў і 150 пудоў попелу, які ўжо знаходзіцца ў арцелі. У гэтым годзе Калінкавіцкі Райвыканком даў арцелі для скосу 30 гектараў абрэзак сенажацяй і гэта дало магчымасьць арцелі падрыхтаваць корм для жывёлы. Пытаньне з хлебам у гэтым годзе яшчэ ня вырашана, яшчэ хлеба ня хопіць для пракармленьня сяброў арцелі ў гэтым годзе.

### Перашкоды ў працы.

На працягу 5 месяцаў існаваньня арцелі было шмат перашкод, галоўныя з іх гэта: 1) цякучасьць членаў арцелі, 2) раскіданасьць хутароў, 3) зьмена двух старшынь арцелі; прычым адзін з іх—Дрозд бузіў у рабочы час (касьба і жніво), і справа зашла так далёка, што

некалькі камісій выяжджалі ў арцель разьбіраць гэтую справу. Зараз Дрозд выключаны з партыі і працуе, як сябра арцелі.

Перанос будынкаў, адбудова іх і прыстасаваньне для жыльля сяброў арцелі, а таксама і земляўпарадкаваньне арцелі забралі шмат рабочых дзён і сродкаў.

### Унутраны распарадак і аплата працы ў арцелі.

Арцель да 20 ліпня, ці праўдзівей да збору новага ўраджаю, жыла старымі запасамі і сродкамі; працавалі калектывам, а карміліся кожны сябра за свой кошт. Праўда, арцель аказвала дапамогу больш беднейшым сябрам арцелі, але гэтая дапамога была нязначная, бо ўся арцель, наогул, бедная. З 20 ліпня былі выпрацаваны нормы аплаты працы



Сяляне слухаюць радыё ў часе манэўраў на Бабруйшчыне.

і правілы ўнутранага распарадку і арцель перашла на калгаснае жыцьцё. Нормы аплаты былі выпрацаваны наступныя:

Дарослы мужчына і жанчына за рабочы дзень атрымоўваюць 70 к., 2) падросткі ў веку ад 14 да 16 год—45 кап., 3) дзеці ў веку ад 12 да 14 лет—23 к., 4) вучні ў час навучаньня атрымоўваюць 23 к., 5) дзеці ад дню нараджэньня і да году—7 к. у дзень, 6) дзеці ад 1 і да 7 год—14 кап. у дзень, 7) дзеці ад 7 і да 12 год—23 кап., 8) непрацаздольныя мужчыны звыш 60 год—18 руб. у месяц і жанчыны—15 рублёў у месяц. Хворым першыя тры дні аплачваюцца як за цэлы рабочы дзень, а астатнія—за поўдня.

Згодна правіл унутранага распарадку зроблена выдзяленьне кіраўнікоў па паасобных галінах гаспадаркі. За нядбайныя адносіны да працы і маемасьці, а таксама за іншыя праступкі вызначана мера пакараньня. Так, у першы раз выносіцца папярэджаньне, у другі раз не запісваецца прапрацованы дзень, а ў трэці раз не запісваецца дзень і накладаецца штрап у разьмеры аднаго рубля. Злодзей выключаецца з арцелі.

## Што мяркуецца зрабіць у 1929—30 годзе.

Арцель згодна пастановы першага свайго сходу бярэ з першых дзён напрамак на паступовы пераход да камуны, як да вышэйшай формы сельскай гаспадаркі. Маючы перад сабой гэтую асноўную мэту, арцель будуе сваю працу так, каб магчыма хутчэй скласьці такія ўмовы ў гаспадарцы, каб зьдзейсьніць гэтую пастанову. На працягу 1929—30 году мяркуецца адбудаваць хлеў для ўсёй жывёлы і гумно, каб абагуліць усё, што маецца ў гаспадарцы. Арцель намеціла на працягу 1929—30 г. адбудаваць усе службовыя будынкі, павялічыць лік кароў з 18 да 30, завесьці статак пародзістых сьвіней і авечак. Закупіць 10 сямей пчол і завесьці пчалярную пасеку. Закласьці сад на плошчы 5 гектараў.

Пахатнай зямлі ў арцелі маецца звыш 100 гектараў і арцель паставіла перад сабой задачу абсемяніць яе поўнасьцю; пры чым зараз азімым жытам 25 гектараў, а астатнюю яравымі культурамі.

Выдаткі арцелі ўжо ў першым годзе даволі значныя, а таму арцель мяркуе ў наступным годзе прыдаць гаспадарцы таварны характар, скарыстаўшы агарод у 5 гектараў пад пасеў квасолі-сядушкі.

Агулам арцель намеціла цэлы шэраг задач на 1929—30 год і калі яна іх выпаўніць, то на многа пасунецца наперад. Арцель таксама паставіла перад сабой задачу на працягу 1929—30 г. ліквідаваць няпісьменнасьць сярод усіх сяброў арцелі.

Трэба сказаць, што с.-г. арцель імя газэты „Савецкая Беларусь" за кароткі пяцімесячны тэрмін дзякуючы ўпартай працы сяброў арцелі, дапамозе рэдакцыі газэты „Савецкая Беларусь" і Зеляноцкай парт'ячэйкі набыла ўжо твар калгаснага аб'яднаньня і шпаркім тэмпам рухаецца наперад да намечанай мэты. Можна спадзявацца, што арцель „Савецкая Беларусь" праз два-тры гады будзе прыкладнай камунай.

Арцель упэўнена, што зіма 1929—30 году дасьць ёй новых сяброў, што да вясны арцель аб'яднаецца з 2 арцелямі вёскі Гарочыцы. Арцель імя газэты „Савецкая Беларусь" прапанавала арцелі „Чырвонае Знамя" аб'яднацца і сумесна будаваць гаспадарку, але сябры арцелі „Чырвонае Знамя" чагосьці мнуцца і ня хочуць.

Зіма з яе вялікімі начамі павінна зрабіць сваю справу; трэба будзе папрацаваць у „Чырвоным Знамені" і давесьці ім, што толькі буйная гаспадарка дасьць нам усё патрэбнае. Гарочыцкія настаўнікі папрацавалі ў мінулую зіму, арганізуючы калгасы, а ў гэтую зіму трэба будзе папрацаваць над падняцьцем культурнага ўзроўню сяброў арганізаваных арцеляў.

Калі-б аб'яднаць Гарочыцкія арцелі і ўзбуйніць іх за кошт неарганізаванага сялянства, то магчыма было-б забраць лесапільны завод з млыном ад Мазырскага камунтрэсту і прыстасаваць яго для перапрацоўкі сельска-гаспадарчых прадуктаў арцелі.

Сельска-гаспадарчая арцель „Савецкая Беларусь" атрымоўвае 5 экз. газэты „Савецкая Беларусь", 2 экз. „Беларускай вёскі" і сёньня пасылае грошы на часопіс „Шляхі каляктывізацыі", акром таго арцель мае бібліятэчку, якая знаходзіцца ў чырвоным кутку Гарочыцкай школы.

Зімой сябры арцелі мяркуюць падвучыцца, бо ў сябры арцелі і праўленьня ўваходзіць настаўнік Гарочыцкай школы.

**Вас. Дубовы.**

## Як зьбіраць з поля насенны лубін.

Лубін—добрае азоцістае ўгнаеньне. З навукі і практыкі вядома, што гэта вельмі каштоўнае ўгнаеньне зьбірае ў карэнчыках, у выглядзе маленькіх пухіркоў, напоўненых трохі ружовай жыжкай, каштоўную матэрыю. Гэта жыжка і ёсьць тое азоцістае ўгнаеньне, без якога нашы культурныя расьліны ня могуць даваць добрых ураджаяў. Адсюль выходзіць, што кожны гаспадар павінен клапаціцца аб тым, каб як найбольш даць культурным расьлінам спажыўных матэрый. У зьвязку з кампаніяй падвышэньня ўраджайнасьці высунута шмат марапрыемстваў, якія садзейнічаюць гэтаму. Зьвернута асаблівая ўвага на ўгнойваньне глебы, для чаго прапануецца ў абавязковым парадку зьбіраць попел і праводзіць іншыя мерапрыемствы. Я прапаную таксама ў абавязковым парадку, як досыць важнае мерапрыемства, устанавіць спосаб збору з поля насеннага лубіну. Як вядома, насенны лубін не ва ўсіх раёнах зьбіраецца з поля аднолькавым спосабам,—у адных раёнах яго жнуць, у другіх абіраюць струкі, а ўся маса застаецца на полі. У Бярэзінскім-жа раёне, мне яшчэ першы раз прышлося бачыць, як з карэньнем вырываюць насенны лубін, вяжуць у снапы і звозяць з поля. Такой уборкай лубіну не палягчаецца праца, а наадварот, робіцца вялікая страта для гаспадаркі,—бо з карэньнямі лубіну з поля выносіцца вельмі многа азоцістых матэрый, г. зн., тых пухіркоў, што знаходзяцца на карэньнях лубіну. Я сам спрактыкаваўся, вырываючы з зямлі сьпелы насенны лубін, і ўбачыў на карэньні яго многа пухіркоў.

Трэба адзначыць, што ў Бярэзінскім раёне насеннага лубіну сеюць вельмі многа, і лубін расьце добры, і калі лічыць, што з карэньнямі насеннага лубіну выносіцца толькі палова азоцістых матэрый, то гэта дае, як мне думаецца, у два разы большыя страты, чым ад таго, калі-б мы ўвесь попел, які маецца ў Бярэзінскім раёне не скарыстоўвалі на ўгнаеньне. Апрача гэтага, карэньні лубіну згніўшы даюць перагнойную масу і глеба робіцца больш пульхнай. Таму я раю зьбіраць насенны лубін з поля так, каб заставаліся ў зямлі яго карэньні,—зжынаць сярпом, ці жаткай, альбо зьбіраць струкі, але ні ў якім разе нельга вырываць насенны лубін з карэньнем. З практыкі я пераканаўся, што вырываючы карані насеннага лубіну выдаляем шмат каштоўных пухіркоў і таму пасьля гэтага жыта кепска расьце. Наадварот, пасьля зжатага лубіну жыта расьце добра. Пажадана, каб гэта пытаньне было вывучана дасьледчымі ўстановамі.

Аграном **Ів. Хлопіцкі.**

ЦАНА 20 КАП.



## ПРЫМАЕЦЦА ПАДПІСКА

—) НА (—

# „Шляхі Каляктывізацыі"

**Часопіс каляктывізацыі, вытворчага с.-г. каапэраваньня і аграномізацыі насельніцтва.**

**Выданьне Наркамзему, Белкалгассаюзу і Белсельсаюзу БССР.**

У 1929 годзе (пачынаючы з ліпеня месяца) выходзіць раз у месяц (выдаецца замест ранейшага часопісу „Плуг", выданьня НКЗБ).

У 1930 годзе мяркуецца выдаваць двухтыднёвік, памерам 48—56 старонак.

Часопіс **„Шляхі Каляктывізацыі" ставіць сваёй мэтай у папулярнай** форме адбіваць шляхі каляктывізацыі сельскай гаспадаркі БССР як праз вышэйшыя формы вытворчага аб'яднаньня—камуны, арцелі, так і простыя—рознага віду таварыствы.

**Задачы часопісу „Шляхі Каляктывізацыі"**—згуртаваць увагу ўсяго бядняцка-серадняцкага сялянства вёскі на шляху сацыяльна-тэхнічнай рэвалюцыі ў сельскай гаспадарцы, заснаванай на электрычнай машыне, на трактары і г. д.

Значнае месца адводзіцца ў часопісу павышэньню с.-г. ведаў насельніцтва і тэхнічным парадам, абгрунтаваным на навуковых даных і мясцовых досьледах.

Часопіс зьвязан з практычнай працаю каапэрацыйных аб'яднаньняў, з Інстытутам Сялян-Дасьледчыкаў і перадавым актывам вёскі.

У часопісу прымаюць удзел:

Працаўнікі калгасаў, прафэсары і навуковыя працаўнікі Беларускай С.-Г. Акадэміі і Беларускага Навукова-Дасьледчага Інстытуту імя У. І. Леніна, спэцыялістыя Наркамзему БССР, настаўнікі, сяляне-дасьледчыкі і інш.

**Падпісная плата на 1929 г.**

На 6 месяцаў . . . . . . . . . . . . . 1 р. 10 к.
„ 3 „ . . . . . . . . . . . . . — 60 „
Паасобны нумар . . . . . . . . . . — 20 „
На год (6 нумароў „Плуга" і 6 нумароў „Шляхі Каляктывізацыі") . . . . . . 2 р. 20 к.



Падпісчыкам „Плуга" да канца 1929 г. будзе высылацца часопіс „Шляхі Каляктывізацыі".

**Падпісная плата на 1930 г. (мяркуецца):**

За год 24 нумары . . . . . . . . . . 3 р. 10 к.
„ паўгода 12 нум. . . . . . . . . . . 1 р. 75 „
На тры месяцы . . . . . . . . . . — 90 „
Паасобны нумар . . . . . . . . . . — 20 „

Ёсьць камплекты „Плуга" за ранейшыя гады. Цана камплекту 1 р. 10 к.

Адрас рэдакцыі: Менск, Савецкая 71, НКЗБ.